**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

**№40(652)**
**4 кастрычніка 2012 года.**
**Кошт свабодны.**





**Як жыве Мосар у зоне цвярозасці?**
Знайсці адказ на гэтае пытанне вырашылі журналісты з Віцебска.
На здымку: Марыя Ткачонак (злева), супрацоўніца культурна-дэндралагічнага комплекса Мосар, з вялікім захапленнем апавядае аб усіх мосарскіх цікавостках. У цэнтры – Наталля Партоліна, справа - Яна Ільіна.
*Працяг тэмы на стар. 4,5*

Фота Ул. Скрабатуна



## Косінец запатрабаваў прыняць цвёрдыя меры па зніжэнні алкагалізацыі насельніцтва вобласці

**Цвёрдыя меры па зніжэнні алкагалізацыі насельніцтва запатрабаваў прыняць старшыня Віцебскага аблвыканкама Аляксандр Косінец. Пра гэта ён нядаўна сказаў на паседжанні падчас разгляду пытання пра рэалізацыю рэгіянальнай праграмы дэмаграфічнай бяспекі Віцебскай вобласці на 2011-2015 гады, перадае карэспандэнт БЕЛТА.**

Па словах Аляксандра Косінца, у выніку праведзенай работы ўпраўленнем аховы здароўя, УУС Віцебскага аблвыканкама, абласным упраўленнем МНС, іншых зацікаўленых ведамстваў у вобласці дасягнута пазітыўная дынаміка асноўных медыка-дэмаграфічных паказчыкаў. Так, зменшылася смяротнасць ва ўсіх узроставых катэгорыях, захоўваецца дадатная тэндэнцыя росту нараджальнасці, запавольваюцца тэмпы натуральнага змяншэння насельніцтва. У той жа час негатыўна на дэмаграфічную сітуацыю ў рэгіёне ўплываюць працэс старэння насельніцтва, які захоўваецца, гібель людзей працаздольнага ўзросту ад вонкавых чыннікаў.

Адным з фактараў пагаршэння дэмаграфічнай сітуацыі ў вобласці застаецца алкагалізацыя насельніцтва. У гэтай сувязі старшыня аблвыканкама запатрабаваў ад службовых асоб усіх узроўняў няўхільнага забеспячэння працоўнай дысцыпліны, падкрэсліўшы, што зараз адказнасць кіраўнікоў за стан здароўя даручанага калектыва будзе прапісана асобным пунктам у кантрактах усіх кіраўнікоў вобласці.

Значны ўнёсак у барацьбу з алкагалізацыяй насельніцтва, асабліва ў сельскай мясцовасці, павінны ўнесці і прадстаўнікі праваахоўных органаў. Адмысловая роля ў гэтым адводзіцца ўчастковым інспектарам. Актуальнай мерай Аляксандр Косінец лічыць таксама неабходнасць адкрыцця ў вобласці жаночага лячэбна-працоўнага прафілакторыя. Акрамя таго, вобласць працягне трымаць курс на спыненне выпуску пладова-ягаднага віна.

*Вольга Багачова - БелТА*





## На Віцебшчыне ўпершыню прайшоў фэст "Жураўлі і журавіны Мёрскага краю"

■ **Яна Ільіна**

**Экалагічны фэст "Жураўлі і журавіны Мёрскага краю" ўпершыню прайшоў у нядзелю ў Мёрскім раёне.**

Удзельнікі свята маглі бясплатна даехаць з Мёраў у навакольныя палі, дзе знаходзяцца пералётныя птушкі – жураўлі і дзікія гусі. Яны спыняюцца тут падчас восеньскай міграцыі, каб паесці і аднавіць сілы для далейшага падарожжа ў вырай. Птушак можна было разглядзець з дапамогай бінокляў і падзорных труб. Днём раней арнітолагі налічылі на верхавым балоце Ельня амаль 4 тысячы жураўлёў, якія прыляцелі са Скандынавіі і Расіі.

А журавіны "ўшаноўвалі" ў самым райцэнтры, на маляўнічым паўвостраве. Тут прайшлі канцэрт фальклорных калектываў і кірмаш з дэгустацыяй страў з гэтай смачнай восеньскай ягады. Усе ахвотныя таксама маглі купіць журавіны.

Фэст наведалі прадстаўнікі Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, Міністэрства спорту і турызму, ААН/ПРААН, дыпламатычных місій і грамадскіх аб'яднанняў.



Экалагічны фэст плануюць праводзіць штогод і зрабіць яго турыстычным брэндам Мёршчыны.

Глыбоцкі раён

# Усім мілы “Родны кут”

■ Станіслаў Раманчук

**Не толькі гараджан, але і гасцей горада Глыбокае прыводзяць у захапленне змены, які адбыліся тут у сувязі з правядзеннем Дня беларускага пісьменства.** Такія ж уражанні застаюцца ў шматлікіх пакупнікоў пасля наведвання абноўленага на цэнтральнай плошчы ўнівермага, які стаў сучасным гандлёвым цэнтрам “Родны кут”. На рэканструкцыю адной з буйнейшых гандлёвых кропак краіны плошчай 4,1 тысячы кв. метраў пайшло амаль 10 млрд. рублёў, большую частку інвестыцый склалі сродкі Белспажыўсаюза. У выніку горад атрымаў адзін з прыгажэйшых будынкаў і дадаткова яшчэ 35 новых рабочых месцаў. Як і ў Еўропе, тут на першым паверсе з’явіліся супермаркет-дыскаўнтар, піцэрыя і аддзяленне банка. Пакупнікоў найперш прываблівающь шырокі асартымент тавараў і нізкія цэны, якія сталі канкурыравацЬ з таннай гандлёвай сеткай “Еўраопт”. На гандлёвых плошчах сталі выкарыстоўваць самыя прагрэсіўныя тэхналогіі гандлю ў свеце з камп’ютарнай сістэмай уліку і разліку за тавары. Устаноўлена ў гандлёвым цэнтры сучаснае халадзільнае абсталяванне з вынаснымі агрэгатамі, прадстаўлены вядучыя вытворцы харчавання Віцебшчыны. Можна купіць розныя паўфабрыкаты, замарожаныя дары лесу. На астатніх паверхах багацейшы выбар іншых тавараў, былі б толькі грошы для пакупак. У самой піцэрыі 60 пасадачных месцаў. Для розных катэгорый насельніцтва ў ёй прапануюць да 15 найменняў піцы. Пасля адкрыцця тут быў сапраўдны ажыятаж, а гандлёвы тавараабарот прыкметна павялічыўся.

Пастаўскі раён

# Значны крок наперад

■ Кастусь Александровіч

**Яшчэ ў пачатку мінулага года ў Пастаўскім раёне ў прамысловасці самым праблемным быў стратны завод радыёкампанентаў “Беліт”, адно з падраздзяленняў айчыннага холдынга радыёэлектронікі “Гарызонт”.**

Сітуацыя тут карэнным чынам змянілася ў лепшы бок з прыходам сюды новага маладога дырэктара Яўгена Захно з вопытам працы ў расійскіх бізнес-структурах. Сёлета завод стала проста не пазнаць, аб’ёмы вытворчасці выраслі ў 5 разоў, яе пятую частку заняла інавацыйная прадукцыя. З двух канвеерных ліній па зборцы тэлевізараў, бытавой тэхнікі да канца года выйдзе ўжо 100 тысяч тэлепрыёмнікаў і пыласосаў. Сярод іх асноўную нішу занялі мадэлі сучасных LCD-тэлевізараў “Гарызонт” і вядомай японскай маркі “Акаі”. Акрамя гэтага тут неўзабаве пачнецца выпуск радыётэлефонаў і пыласосаў польскай маркі “Zelmer”. Аб гэтым гаварылася на выязным семінары-нарадзе з кіруючымі работнікамі раёна, які прайшоў нядаўна на заводзе, дзе дасягненні заводчан ставіліся ўсім у прыклад. На заводзе “Беліт” дабіліся поспеху таму, што ўмела заняліся стратэгічным планаваннем, абнавілі кадры, укаранілі прагрэсіўныя сістэмы матывацыі працы работнікаў і кіравання вытворчасцю. Акрамя асноўнай прадукцыі прыбытак дае і вытворчасць кандыцыянераў, ДВД-прайгравальнікаў. На экспарт у асноўным ідзе і прадукцыя ўчастка тэхнічных сурветак у аб’ёме да 130 тон у месяц. Завод займае тэрыторыю плошчай 11 гектараў, там да крытага рынку “Гарызонт”, які дзейнічае даўно, дабавіўся новы рынак “Беліт”.

Лепельскі раён

# З прыцэлам на Бразілію

■ Чэслаў Якубовіч

**Зусім нямнога часу прайшло, як закончыліся чарговыя летнія Алімпійскія гульні ў Лондане, аднак у спартсменаў экстра-класу зусім мала часу было для адпачынку.**

Вось і цяжкаатлет з Лепеля, майстар спорту міжнароднага класу Яўген Жарнасек толькі на лічаныя дні завітаў у родныя мясціны. У брытанскай сталіцы ён выступаў у прэстыжнай суперцяжкай вагавай катэгорыі і заваяваў там ганаровае 7-е месца, выступіў у сваю сілу. Але для 24-гадовага хлопца гэта было нармальнае выступленне. Яго лепшыя гады ў спорце наперадзе, а спадзяванні на медаль звязаныя з наступнай Алімпіядай у Рыа-дэ-Жанейра. Яўген толькі дагэтуль перажывае, як летась бязлітасны лёс забраў жыццё у аўтааварыі яго сябра з Верхнядзвінскага раёна Сяргея Лагуна, які мог бы сёлета апынуцца на п’едэстале гонару ў Лондане. Увогуле за гонар Віцебшчыны там найбольш паспяхова пазмагаліся менавіта цяжкаатлеты, якіх выхаваў ганаровы грамадзянін Наваполацка, старшы трэнер зборнай Беларусі Віктар Шэршукоў. Нагадаем, што Марына Шкерманкова з Глыбокага прывезла на Віцебшчыну з мінулых гульняў адзіны бронзавы медаль. Акрамя яе ў нацыянальнай зборнай можа “выстраліць” у Бразіліі яшчэ адна таленавітая дзяўчына з Дзісны. А пакуль у верасні беларускія асілкі ўжо правялі першы трэніровачны аднаўленчы збор ва Украіне ў горадзе-пабрацiме Наваполацка Скадоўску.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 04.10.12 | | | | Пятніца 05.10.12 | | | | Субота 06.10.12 | | | | Нядзеля 07.10.12 | | | | Пнд.08.10.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +14 | +13 | +17 | +13 | +13 | +13 | +12 | +9 | +9 | +11 | +11 | +9 | +11 | +13 | +13 | +9 | +7 | +7 | +10 |
| Ціск | 743 | 743 | 744 | 744 | 742 | 739 | 742 | 743 | 741 | 733 | 742 | 744 | 740 | 736 | 735 | 738 | 741 | 742 | 744 |
| Вільготнасць | 94 | 95 | 67 | 85 | 85 | 92 | 79 | 84 | 88 | 91 | 76 | 86 | 92 | 90 | 67 | 78 | 82 | 86 | 73 |
| Вецер м/сек | 3 Пд-У | 5 З | 5 З | 4 Пд | 5 Пд | 7 Пд | 6 З | 3 З | 4 Пд | 7 Пд-З | 7 Пн-З | 2 Пд-З | 6 Пд | 8 Пд-З | 9 Пд-З | 9 З | 5 З | 5 З | 5 З |



# Лічба нумара

## 634.6

**мільёнаў $** - столькі наяўнай валюты купіла, па дадзеных Нацыянальнага банка РБ, насельніцтва Беларусі толькі ў жніўні. Гэта сёлета – абсалютны “рэкорд”, бо ў папярэдні месяц лета беларусы набылі ў абменніках і касах банкаў долараў амаль на 100 млн. меней. Звычайна ва ўсім свеце ў гэты перыяд года падобная актыўнасць людзей на ўласных валютных рынках мінімальная, бо прыпадае сезон водпускаў, вялікія гарады пусцеюць, адпачываючыя еўрапейцы і амерыканцы, канадцы адпачываюць на ўлонні прыроды, альбо на міжземнаморскіх курортах ад мітусні мегаполісаў.

Іншая справа – наша краіна, якая ўжо 18 гадоў ідзе сваім своеасаблівым шляхам, а напярэдадні парламенцкіх выбараў суайчыннікі чамусьці зноў сталі запасацца валютай на ўсялякі выпадак. Беларусы сталі паміж сабой гаварыць і спрачацца, ці магчыма чарговае рэзкае аслабленне беларускага рубля і новая дэвальвацыя нацвалюты. Праўда, вышэйшае кіраўніцтва і айчынныя банкіры ў асобе Н. Ермаковай сталі запэўніваць, што падобнага абвалу быць не павінна. У рэальным жыцці навучаныя горкім вопытам беларускія грамадзяне добра памятаюць, як хутка знік пасля прэзідэнцкіх выбараў іх 500-доларавы дабрабыт і што стала тады з цэнамі.

Нагадаем, што ў папярэдній пяцігодкі ўлады, калі ім патрабавалася, уключалі смела друкарскі станок і штампавалі, штампавалі грошы. Потым ім удавалася дамовіцца з Расіяй і МВФ аб атрыманні чарговых крэдытаў. На самы дрэнны варыянт развіцця спраў у айчыннай эканоміцы прадавалі буйныя фірмы, тыпу “Белтрансгаза” і закрывалі дзіркі. Думаеце, што-небудзь у нас памянялася? Наадварот у строй дзеючых вярнуўся з небыцця заслужаны геройпенсіянер Пётр Пракаповіч і пакуль у мяккай форме, як прэзідэнцкі дарадца па эканоміцы, крытыкуе ўрад за вельмі нізкі рост ВУП пры быццам спрыяльнай сітуацыі.

Дарэчы, на родных прасторах пакуль было спакойна, ніякай панікі не назіралася, хоць актыўнасць ля абменнікаў беларусаў значна ўзрасла. Аднак трэба прызнаць, што ўсё лета, 3 месяцы запар насельніцтва краіны купляла наяўнай і безнаяўнай валюты болей, чым прадавала. Такая тэндэнцыя можа захавацца і нават узмацніцца і надалей, паколькі ў нас чакаюць толькі паступленні новага 4-га па ліку траншу Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС і разлічваюць на поспех перамоў з МВФ (у апошняе слаба верыцца).

Але сёлета па-ранейшаму ў Беларусі высокая інфляцыя, растуць цэны (за 8 месяцаў іх паказчык дасягнуў 14,6 %). Але паркрыху пры гэтым знізілі да 30 % банкаўскую стаўку рэфінансавання. На фактар далейшага магчымага аслаблення беларускай валюты сур’ёзна ўплывае тое, што знік валютны паток пасля спынення пад ціскам Расіі “растваральнага” (нафтавага) бізнесу. Адначасова ўслед за насельніцтвам сталі актыўна набываць валюту ў жніўні і суб’екты гаспадарання.

Заводы і фабрыкі ў канцы лета набылі яе на 2, 2 млрд. долараў, на чвэрць болей, чым у ліпені – гэта таксама “рэкорд” на фоне таго, што нашы прадпрыемствы таксама набралі занадта шмат валютных крэдытаў. Спецыялісты Нацбанка і іншых банкаў выказваюць апасенні, што іх кліенты не змогуць вярнуць гэтыя валютныя крэдыты, бо ўзнік яшчэ і фактар СГА, куды ўступіла Расія. Нашы вытворцы могуць страціць свае рынкі збыту на расійскіх прасторах ва ўмовах абвастрэння канкурэнцыі.

Услед за гэтым тая ж Н. Ермакова, каментуючы настроі грамадства і чаканні зноў 500-доларавай зарплаты, шчыра прызнала, што плаўная дэвальвацыя беларускага рубля усё ж магчымая, як і новая дэнамінацыя ва ўмовах росту даходаў, калі з грошай адкінуць лішнія некалькі нулёў. Увогуле ў нас разабрацца, што будзе далей у эканоміцы, складана нават дасведчанаму спецыялісту, ці ўключаць зноў друкарскі станок грошай, бо акрэслілі задачу да 2013 года забяспечыць эканамічны рост і не абы які, а на ўзроўні 8,5 %, як у Кітаі, на які мы ўсё часцей арыентуемся.

У рэальнасці мы такія бедныя таму, што запас валюты ў краіне ўсяго на ўзроўні 2-х месяцаў імпарту. Увесь час жывём у чаканні нейкага эканамічнага цуда, цяпер узяліся за малочныя фермы, быццам за кошт малочных рэк з беларускіх берагоў нам удасца так нарасціць свой экспарт, што ён стане перавышаць імпартныя закупкі. Ці многа ў нас засталося такіх даверлівых грамадзян, хто верыць у поспех амбіцыйных планаў і старыя песні аб галоўным?

## Дзень за днём

**У Нацбанку Беларусі пацвердзілі, што ў кастрычніку адновяцца перамовы з МВФ аб новых крэдытах. А. Лукашэнка зноў развеяў чуткі аб магчымай дэвальвацыі беларускага рубля, хоць з 2009 года нацыяльная валюта абясцэнілася ў 4 разы. Зноў вырас у нас попыт на валюту: у жніўні было набыта на 220 млн. $ болей, чым прададзена, з іх 97 млн. долараў купіла насельніцтва. Даручана таксама разабрацца з тымі, хто хавае свае даходы. Да канца года паабяцалі давесці зарплату ў Мінску да 600 $, а ў Маскве яна ўжо 1560 долараў. Члены ўрада РБ узялі пад асабісты кантроль рэалізацыю інвестпраектаў і бізнес-планаў буйных прадпрыемстваў краіны. Кожны пяты вучань старэйшых класаў беларускіх школ ужо мае хранічныя захворванні.**

## Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Прэзідэнт Еўракамісіі Жозе Баррозу заявіў, што ЕС павінен пераўтварыцца ў федэрацыю дзяржаў для забеспячэння больш глыбокай інтэграцыі і росту іх эканомік.

**Лівія.** У выніку нападзення ў Бенгазі натоўпам узброеных азвярэлых мусульман быў забіты пасол ЗША К. Стывенс і яшчэ трое супрацоўнікаў амерыканскага пасольства.

**Германія.** Федэральны канстытуцыйны суд дазволіў ураду краіны ўдзельнічаць у выратаванні еўразоны ў створаным Еўрапейскім стабмеханізме з тратай 190 мільярдаў у год.

**Францыя.** На адкрыцці сесіі Еўрапарламента яе кіраўнік Марцін Шульц заклікаў лідара Беларусі А. Лукашэнку правесці рэформы і вызваліць з турмаў усіх палітзняволеных.

**Іран.** Адыёзны прэзідэнт М. Ахмадзінежад абвінаваціў заходнія краіны у тым, што яны штучна знішчаюць дажджавыя хмары перад краінай, каб знішчыць іранцаў - і гэта ўжо вайна.

**Іспанія.** На найбуйнейшай у гісторыі дэманстрацыі ў Барселоне амаль 1,5 млн. чалавек запатрабавалі незалежнасці свайго самага багатага краю Каталоніі ад астатняй Іспаніі.

**Галандыя.** Правячая Народная партыя перамагла на датэрміновых усеагульных выбарах з курсам на рэжым жорсткай эканоміі дзяржбюджэту, нацыяналістыпапулісты прайгралі.

**Малдова.** Расія прапанавала краіне дэнансіраваць дагавор з ЕС аб энергетычным супрацоўніцтве ў абмен на танны газ пры ўрэгуляванні даўгоў перад РФ – 4,1 мільярда долараў.

**Польшча.** Дэпутат Еўрапарламента Марэк Мігальскі прапанаваў знізіць, альбо зусім адмяніць плату за навучанне ў буйнейшых польскіх ВНУ для беларускай моладзі.

**Грузія.** Генсек НАТА ў Тбілісі А. Расмуссен пацвердзіў намеры альянсу прыняць Грузію ў свае члены, выказаў падтрымку тэрытарыяльнай цэласнасці краіны і яе суверэнітэту.

**Пакістан.** У выніку моцнага пажару на тэкстыльнай фабрыцы ў Карачы, які доўга не маглі патушыць, загінула больш 230 яе работнікаў, на іншай фабрыцы загінула яшчэ 25.

**ЗША.** Віцэ-прэзідэнт кампаніі Apple Філ Шылер у Сан-Францыска прадставіў навейшую мадэль смартфона iPhone-5 з алюмінію і шкла вагой усяго 112 грам, таўшчынёй 7 мм.

**Расія.** З канвеера аўтазавода ў Іжэўску сышла апошняя мадэль класічных савецкіх "Жыгулёў" Lada-2104, іх выпускалі з 1970 года, цяпер робяць тут бюджэтныя седаны.

**Галандыя.** У цэнтры Эйндховена ля 4 дубоў, пасаджаных у памяць зніклых Ю. Захаранкі, В. Ганчара, А. Красоўскага і Д. Завадскага, прайшла цырымонія "Мы памятаем пра Вас".

**Аўстралія.** Вучоныя-фізікі Мельбурнскага ўніверсітэта распрацавалі ўнікальную тэхналогію эфекта кіпячэння вады без бурбалак, яна павялічыць хуткасць руху суднаў.

## Мінпрацы хоча ўзмацніць адказнасць за пакіданне састрэлых бацькоў без падтрымкі



■ БелаПАН |

**Дэпутаты прапаноўвалі перадаваць пакінутых дзецьмі састарэлых людзей пад апеку дзяржавы, а дзяцей абавязаць аплачваць іх утрыманне.**

Міністэрства працы і сацыяльнай абароны плануе ініцыяваць узмацненне адказнасці працаздольных дзяцей за пакіданне састарэлых бацькоў без падтрымкі. Пра гэта паведаміў намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны Аляксандр Румак.

«Мы пакуль не прыйшлі да высновы, якім шляхам нам ісці для вырашэння гэтай праблемы», —адзначыў Румак. Ён адмовіўся выдаць варыянты магчымага ўзмацнення жорсткасці заканадаўства, якія цяпер абмяркоўваюцца.

Намеснік міністра адзначыў, што адной з прапаноў ад дэпутатаў была прапанова перадаваць пакінутых дзецьмі састарэлых людзей пад апеку дзяржавы, а дзяцей абавязаць аплачваць іх утрыманне.

«Такая прапанова гучала, але мы яе не разглядалі з тым, каб замацаваць у нарматыўных актах», — сказаў ён. Паводле слоў Румака, цяпер пенсіянеры маюць права дамагацца праз суд утрымання ад працаздольных дзяцей.

Ён таксама падкрэсліў важнасць прапаганды «здаровых сямейных адносінаў» у беларускім грамадстве.

## Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Прапанаваныя лідарам РБ тэмпы росту эканомікі ў 2013 годзе будзе забяспечыць надзвычай цяжка, як асмеліўся прызнаць беларускі прэм'ер-міністр М. Мясніковіч.

**Брэст.** Ужо амаль паўгода церпіць цяжкасці, прастойвае прадпрыемства "Дываны Брэста", большасць з яго паўтысячы работнікаў перавялі зараз на 3-дзённы графік працы.

**Пружаны.** Міністр інфармацыі РБ А. Пралясковускі на сустрэчы з калектывам райгазеты паведаміў, што новая галоўная газета краіны не будзе звацца "Советской Белоруссией".

**Гродна.** У парагазатурбінным цэху мясцовай ЦЭЦ-2 выявілі перавышэнне ўзроўню радыяцыі ў 50 разоў у абсталяванні, закупленым у Індыі, яго заменяць і ўтылізуюць.

**Астравец.** У пачатку лета 2013 года намечаны работы асноўнага перыяда будаўніцтва Беларускай АЭС, зараз узводзяцца 62 аб'екты станцыі, 14 з гэтых аб'ектаў здадуць да канца года.

**Мінск.** Лідар руху "За Свабоду" Аляксандр Мілінкевіч заявіў, што ў 2015 годзе нязменны лідар РБ не зможа выйграць сумленныя выбары, бо сёння яго рэйтынг ад 20 да 30 %.

**Ельск.** Пасля скандалу ў СМІ кіраўнік аднаго з бяднейшых раёнаў краіны адмовіўся купляць у гараж райвыканкама службовы аўтамабіль Touareg коштам 600 млн. рублёў.

**Мінск.** Гарпракуратура дапытала рэдактара папулярнай газеты "Прэсбол", адкуль выданне давядалася пра гадавы бюджэт (24 млн. $) хакейнага клуба КХЛ "Дынама" (Мінск).

**Жлобін.** На БМЗ пачалі рэвізію трубапракатнага цэха пасля арышту намесніка начальніка цэха па абвінавачванню ў арганізацыі крадзяжу 2-х падшыпнікаў коштам звыш 32 млн.

**Бабруйск.** Напярэдадні свайго 50-годдзя ў мясцовай калоніі праваабаронца Алесь Бяляцкі даведаўся, што намінаваны на прэмію Еўрапарламента імя Сахарава "За свабоду думкі".

**Мінск.** 63-гадовы трэнер Н. Астапчук Аляксандр Яфімаў прызнаўся, што падсыпаў ёй пад ціскам допінг, каб заваяваць "золата" на Алімпіядзе, як патрабавалі чыноўнікі ад спорту.

**Гродна.** У лясным масіве паблізу стыку граніц з Літвой і Польшчай пагранічнікі выявілі нелегальны лагер 36 мігрантаў з В'етнама, якія дабраліся з Масквы, каб трапіць у ЕС.

**Гомель.** Навучэнец каледжа машынабудавання Станіслаў Галкоўскі прыдумаў відэльцы-ключкі, якія як сувеніры пачнуць выпускаць да чэмпіянату свету-2014 па хакеі ў Мінску.

**Смаргонь.** Падчас збору грыбоў паблізу палігона вучэбнага цэнтра пагранвойскаў РБ загінуў па неасцярожнасці 60-гадовы жыхар райцэнтра, калі там ішлі баявыя стрэльбы.

**Мінск.** Знакаміты трэнер Эдуард Малафееў у 70 гадоў зноў стаў працаваць у ФК "Дынама" і курыраваць працу трэнераў дубля, "Дынама-2" і ўсіх юнацкіх каманд клуба.

## Чарговы пераразлік пенсій — у лістападзе

**Чарговы пераразлік працоўных пенсій будзе праведзены ў лістападзе. Пра гэта паведаміў намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны Аляксандр Румак.**

Паводле яго слоў, памеры працоўных пенсій будуць пераразлічаны, зыходзячы з росту сярэдняй зарплаты. Таксама ў сувязі з ростам бюджэту пражытачнага мінімуму будзе праведзены пераразлік мінімальных працоўных пенсій, сацыяльных пенсій, надбавак і даплат да іх.

Як адзначыў Румак, пераразлікі працоўных пенсій, заснаваныя на росце сярэдняй зарплаты, сёлета праводзіліся 1 лютага, 1 мая і 1 жніўня.

З гэтых жа дат праведзены пераразлікі мінімальных працоўных пенсій, сацыяльных пенсій, а таксама надбавак і павышэнняў да пенсій у сувязі са зменам бюджэту пражытачнага мінімуму.

Паводле даных Мінпрацы, суадносіны сярэдняй пенсіі па ўзросце і сярэдняй заработнай платы складаюць прыкладна 40%.

На фінансаванне пенсійных выплат у Беларусі накіроўваецца каля 10% ВУП.

Румак нагадаў, што згодна з указам прэзідэнта ад 16 студзеня № 35 «Аб павышэнні пенсій» устаноўлены даплаты да пенсій непрацуючым грамадзянам, якія пастаянна пражываюць у Беларусі і дасягнулі 75 гадоў, — 75% мінімальнага памеру пенсіі па ўзросце, 80 гадоў — 100% мінімальнага памеру пенсіі па ўзросце.

## Панарама ўнутрыабласных падзей

**Полацк.** Следчы камітэт РБ сабраў доказы незаконнага выдзялення зямельных участкаў для ўзвядзення жылля для чатырох экскіраўнікоў гар і райвыканкама і іх намеснікаў.

**Лёзна.** Новы цэх па пашыву абутку лідара абутковай галіны краіны – прадпрыемства "Марко" адкрыўся ў райцэнтры на 2-м паверсе Дома быту на 50 рабочых месцаў.

**Лепель.** Мясцовы РАУС адмовіў дырэкцыі Бярэзінскага біясфернага запаведніка ва ўзбуджэнні крымінальнай справы ў адносінах сайта TUT.BY за быццам паклёп на яе.

**Наваполацк.** Ніхто з 15 работнікаў цэха корпуснай мэблі не пацярпеў падчас пажару, аднак агонь, які патушылі за 45 мінут, знішчыў вырабы, пашкодзіў маёмасць цэха, столь.

**Полацк.** Па факту гібелі ад узрыву на будоўлі новага дома 32-гадовага зваршчыка і ранення яшчэ аднаго рабочага пачалося следства, як на аб'екце апынулася граната.

**Верхнядзвінск.** У рамках першага свята вуліцы Садовай адбыўся гарадскі конкурс па жыллёваму добраўпарадкаванню, наступныя ўрачыстасці пройдуць на вул. К. Маркса.

**Глыбокае.** Другую па ліку партыю згушчонага малака вагой 9600 тон адправіў у ЗША мясцовы МКК, яшчэ адна партыя была адгружана ў Ізраіль, на чарзе пастаўкі ў В'етнам.

**Полацк.** На мясцовым вінзаводзе спыніліся ўсе цэхі і ўзнікла стыхійная забастоўка рабочых, незадаволеных атрыманай зарплатай менш 2 млн. рублёў за працу ў жніўні.

**Шуміліна.** Падчас выпіўкі і ўзніклай спрэчкі раней судзімы за рабаўніцтва 44-гадовы мужчына забіў нажом малодшага на 2 гады брата ў іх агульным доме ў райцэнтры.

**Бешанковічы.** Прыватная кампанія атракцыёнаў прывезла з Мінску ў райцэнтр шэраг новых забаў для дзяцей і дарослых: катанне ў водных шарах, скачкі на батуце, бампербол.

**Віцебск.** Адміністрацыя мясцовага СІЗА зноў не дапусціла адваката да лідара апазіцыйнай арганізацыі "Малады фронт" Зміцера Дашкевіча, што ўстрывожыла яго родных.

**Докшыцы.** Да новага навучальнага года пройдзе капітальны рамонт старэйшай СШ №1 райцэнтра, у ёй і ў дзетсадзе №3 намечана замяніць усе вокны на сучасныя пластыкавыя.

**Глыбокае.** Пасля рэканструкцыі коштам 9,5 мільярда рублёў гандлёвы цэнтр "Родны кут" стаў адным з буйнейшых у краіне, тут дабавілася 35 рабочых месцаў. З'явілася ў гандлёвым цэнтры і кафэ-піцэрыя.

**Верхнядзвінск.** Ноччу ля вёскі Боркавічы пагранічнікі затрымалі аўтамабіль ГАЗ-66, на якім грамадзянін РФ спрабаваў па чыгунцы пераправіць у Латвію 141 кораб цыгарэт.

**Полацк.** Супрацоўнікі КДБ спрабавалі высветліць, хто з рабочых вінаробчага завода быў ініцыятарам выхаду з афіцыйнага прафсаюза і стварэння суполкі Свабоднага прафсаюза.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Мосар: як пілі,

■ Уладзімір Скрабатун

**Няхай нашых чытачоў не здзіўляе гэтае сакраментальнае пытанне, якое вынесенае ў загаловак. Ніякага падвоху тут няма. – Свіння,– як кажуць у народзе,– заўсёды гразь знойдзе! Тут, найперш, важнае меркаванне і адносіны саміх жыхароў Мосара да надання паселішчу статуса тэрыторыі вольнай ад алкаголю. Ці добра тое, што ў мясцовых крамах не купіш не тое, што гарэлкі ці піва, але й джын-тоніка?**

Наталля Партоліна, журналіст "Комсомольской Правды в Белоруссии" (карпункт у Віцебску), якая пяць гадоў таму прысутнічала ў Мосары на закладцы Алеі Цвярозасці, вырашыла спраўдзіць сённяшнія настрої жыхароў Мосара. Што змянілася?

Улічваючы, што наўпроставага аўтобуса з Віцебска да Мосара няма, а сямейны аўтамабіль здох, спадарыня Наталля звярнулася за дапамогай да аўтара гэтых радкоў – знайсці ў Глыбокім вадзіцеля з аўтамабілем, абы даехаць з Глыбокага ў Мосар. Ну, а хто дапаможа, як не Кастусь Бахір, аматар вандровак, з якім наездзілі разам не адну сотню кіламетраў. Наталля, аднак, завітала не адна, а з Янай Ільіной, колішняй журналісткай "Витебского курьера", а цяпер – супрацоўнікам сайта "Народныя навіны Віцебска".

## Як "выжывае" Мосар без алкаголю?

Першым пунктам візіту ў Мосары стала прадуктовая крама, што на ўездзе ў паселішча з боку Глыбокага. А тут, якраз, і невялікая чарга ўтварылася за таварамі першай неабходнасці. Гарэлкі, піва, джын-тонікаў на паліцах крамы – няма, як ні ўзірайся!

– Добра зрабілі! Пацішэла ў Мосары! – кажа адна сталая пакупніца ў чарзе.

– А што добрага!– пярэчыць сусед па чарзе. – Сядзіш ты ў хаце, зачыніўшыся, нічога не бачыш, што робіцца наўкола! Гарод узаралі, збаранавалі – плаці! Грашамі ніхто не бярэ! Бутэльку гарэлкі давай! А дзе яе ўзяць! Трэба пехатой ці на ровары ехаць за тры кіламетры ў Луцк-Масарскі!

– Нічога страшнага, можаш і схадзіць у Луцк, калі пільна патрэбна!– не суцяшаецца пакупніца. – Добра зрабілі, пацішэла…

Аб'ектаў для фатаграфавання ў гэтай краме шмат! Нязвыкла глядзяцца ў ёй фірмовыя халадзільнікі з такімі піўнымі брэндамі як "Крыніца", "Лідскае". Заміж піва там: яйкі, смятана, ёгурты, цытрусавыя… Ну, тое ж беларускія брэнды! А каб "Coca-cola"? Гэтыя ж, прынцыпова, сочаць за мэтавым выкарыстаннем, халадзільнік атабралі б.

## Сто гадоў барацьбы за цвярозасць

Барацьбу за цвярозасць у Мосары распачаў не ксёндз Ёзас Булька, як гэта прынята лічыць. Гэтай гісторыі – 100 гадоў! І ў нас ёсць адпаведны дакумент.

У адным з нумароў беларускай каталіцкай газеты «Biełarus», рэдактарам якой у 1913-1915 гг быў Баляслаў Пачопка, апублікавалі нататку чытача з Мосара пад загалоўкам "Пішуць да нас". Выходзячы з таго, што нататка невялікая, цытуем яе цалкам, аднак, зазначым адразу, што ў арыгінале яна надрукаваная лацінкай і тут падаем яе кірыліцай з захаваннем правапісу дакумента:

**Масары, Вілен(скай) г(убэрні), Дзісен(скага) пав(ету).**

Ёсьць тут стары і дужа харошы касьцёл. Народ тутака пабожны. У сьвяточныя і ў нядзельныя дні народу поўны касьцёл. Шмат яго з'еджаіцца на фэст сьв. Яна і на сьв. Петра, каб памаліцца да сьв. Юстына, каторага рэліквіі перахоўываюцца ў Масарскім касьцелі. На тыя сьвяткі прыежджаюць людзі адусюль: з Глыбокага, з Лучаю, з Задзеўя, ды нават і з далейшых ваколіцаў – аж Мінскай губэрні. Прыежджаюць не толькі каталікі, але і праваслаўные, даўнейшыя ўніяты. Хараша глядзець, як усе гэтые людзі шчыра, горача моляцца Богу. Не адзін недаверак могбы навярнуцца, глянуўшы на іх жывую, гарачую веру і на іх вялікую любоў да Бога.

Дрэнна тут толькі тоя, што якраз нідалёка касьцёла стаіць карчма. Ля яе часта п'яные дзяцюкі сварацца, ды і б'юцца, нават і ў тыя вялікія сьвяткі. Б'юцца найчасьцей парафікі масарскага пана П… Ягож і тая карчма. Як то добра было-б, замест аддаваць хату пад карчму, – каб Пан П… аддаў яе пад народны дом, на чытальню і біблётэку, ці на што іншае добрае для суседніх сяляноў, за іх цяжкую працу ў яго дварэ, чымся прыспорываць атруту для беднага і цёмнага мужыка. Гэтым дапякаў пана П… кс. Дудз…, але відаць нічога тоя ні памагло.

Тутэйшы народ трымаіцца старыны: усе пяюць харошыя беларускія песьні, гуляюць даўныя гульні, прымерам "Цярэшку", "Пірапёлку" і іншыя. Шмат у якіх песьнях ёсьць звароткі да Бога, да Хрыстуса, да Яго Маткі Нацсьвяцейшай. Гэта сьведчыць аб тым, як ужо здаўна ў нашым народзе ўмацавалася хрысьціянская вера. У аднэй песьні, пра дзявочую нядолю так пяецца:

"Хіба мяне маці ў касьцёл ні насіла,

"Чаму бо мне маці долі ні ўпрасіла".

Аднаго разу, калі я зьбіраў і запісываў песьні, дык кабета пеяла мне іх і плакала. – Чаго, пытаюся, плачыш? – "Як, кажэ, ні плакаць, калі мне як раз так жылося, як у гэтай песьні пяецца".

З гэтаго відаць, што песьні тутэйшыя народ выпяяў с сваей душы, с свайго гора, жуды і радасьці – с свайго мінулаго жыцьця, дык шанаваць і захаваць гэтые скарбы свае хіба народ патрапіць.

J …

Праз 100 гадоў наўрад ці мы вылічым аўтара гэтай нататкі ў газеце «Biełarus», які схаваўся пад крыптонімам "J …". З іншымі персанажамі – прасцей! Хто гэты мосарскі "пан П"? Зразумела, што апошнімі ўладальнікамі Мосара былі Пілсудскія – крэўныя сваякі маршала Юзафа Пілсудскага. Толькі хто: Эдмунд? Ці яго сын Калікст, апошні ўладальнік маёнтка Мосар? (Пры жаданні і гэты факт можна спраўдзіць).

А хто той ксёндз Дудз… (Dudz…) які першы распачаў у Мосары "крыжовы паход" супраць п'янства? Сто гадоў таму!!!

На пачатку падумаў: з гэтым заданнем я спраўлюся лёгка. Перапароў увесь інтэрнет… І нічога няма! Дзіўна! На папулярным краязнаўчым сайце http://radzima.org/be/miesca/mosar.html таксама нічога няма! Звычайна Ян Фібэк (br. Jan Fibek OFMCap) змяшчае на гэтым сайце спісы ксяндзоў для кожнай каталіцкай парафіі за ўсю гісторыю яе існавання. Але пра Мосар такіх звестак пакуль няма.

Хто тады дапаможа, як не сам ксёндз Аляксей Юркайць, цяперашні адміністратар парафіі Мосар! Тэлефаную. Ксёндз Аляксей паабяцаў, што цягам дня, альбо двух, такую інфармацыю ён мне дасць!

І патэлефанаваў ужо гадзіны праз чатыры… Праўдзі ён, сапраўды, вялікую даследніцкую працу: апытаў найстарэйшых парафіянак, якім пад 90 гадоў, патэлефанаваў у Глыбокае, апытаў настаўніцу, ураджэнку Мосара, якая жыве ў Вільні…

Пад 1913-1915 гг – часы выдання газеты «Biełarus» – падпадае служба ў гэтай парафіі ксяндза Юльяна Дудзінскага. Ксёндз Юльян Дудзінскі служыў у мосарскай парафіі з 1911 па 1922 год. Вось ён і распачаў у Мосары барацьбу за цвярозасць, але безвынікова… І толькі праз сто гадоў злашчасную карчму (магазін), якая стаяла насупраць касцёла св. Ганны, знёс ксёндз Ё. Булька.



У пошуках «зялёнага змія» журналісты завіталі ў першую ж мосарскую краму. Няма – «хоць шаром пакаці»! На здымку: злева – Яна Ільіна, журналістка сайта «Народныя навіны Віцебска», справа – Наталля Партоліна, журналістка «Комсомольской Правды в Белоруссии» сярод пакупнікоў мосарскай крамы.

## Падрасла Алея Цвярозасці

Цяпер праз пяць гадоў з дня закладкі Алеі Цвярозасці можна бачыць і першыя вынікі: дрэўцы падраслі, добра акрэсліваюць контуры і памеры Алеі, усталяваныя тут і статуі святых. Натуральна, што з кожным годам, па меры росту дрэваў, якія пасадзілі АА (ананімныя алкаголікі), усё гэта будзе набываць яшчэ большую прыгажосць і выразнасць. З розных пунктаў Алеі Цвярозасці адкрываюцца прыгожыя відавыя кропкі на штучны вадаём з лотасамі, на касцёл св. Ганны, на дарогу да крыніцы, на Крыжовую дарогу да самага высокага крыжа на Беларусі, які стаіць на вялікім пагорку, а з вышыні самога крыжа бачнае ўжо і Глыбокае. Усё гэта, па аналогіі з такім паняткам як палацава-паркавы ансамбль, ствараe тут уражанне разлеглага касцельна-паркавага ансамбля.

На Алеі Цвярозасці, бадай што, адзначылася ўся Беларусь. Ля кожнага дрэўца стаіць шыльдачка з назвай групы АА і горада, ёсць і індывідуальныя, часам з жаночымі імёнамі.

Агульнае ўражанне ад Алеі падсумавала Наталля Партоліна: "Жыццё цудоўнае! Дык навошта яго тапіць у келіху з "чарнілам"!

## Іронія лёсу! Газоны ў Мосары буйна парасл гнаявікамі!

Пачаўся невялікі дождж… І трэба было паспяшаць ў больш утульнае месца. І тут, на момант, усе забыліся пра дождж… Па дарозе да касцёла, збоч тратуара, перад намі адкрылася неверагоднае відовішча! На газоне – цэлая плантацыя грыбоў гнаявікоў (навозников)! Гэта ж трэба! Іронія лёсу!

Можа хто й не чуў, але грыб гнаявік лічыцца эфектыўным сродкам ў барацьбе жанчын супраць сваіх мужоў алкаголікаў. Яго патаемна падкладваюць у ежу.

Калі паласавацца гэтымі грыбамі, а затым выпіць алкаголь, то са смельчаком, які адважыўся на падобны подзвіг, пачнецца такое,


Па дарозе да Алеі Цвярозасці – плантацыя грыбоў гнаявікоў, якія растуць наўпрост на газонах.


Грыбы гнаявікі буйным планам. Эфектыўны сродак барацьбы з алкагалізмам!

# так і п'юць?



Крама ў Луцку-Масарскім мае ў сваім асартыменце шмат таго, чаго не маюць крамы ў Мосары. Найперш – спіртныя напоі.

чаго, па-праўдзе кажучы, і ворагу не пажадаеш. Праз паўгадзіны (у некаторых выпадках праз дзве гадзіны) у чалавека моцна чырванее твар, а затым барвавее і нават становіцца фіялетавай вялікая частка цела. Але кончык носа і вушныя мочкі пры гэтым застаюцца бледнымі. Малюначак атрымліваецца ўражлівы! Адначасова з'яўляюцца жар, сэрцабіцце, моцная смага, ваніты, панос. Пачашчаецца пульс, запавольваецца гаворка, парушаецца зрок. Менавіта таму неабходна загадзя абмеркаваць з лекарам стан здароўя «аб'екта», каб не здарылася ніякіх ускладненняў.

Праз некалькі гадзінаў усе гэтыя сімптомы бясследна знікаюць, але ўзнікаюць ізноў, калі на наступны дзень неслух ізноў задумае прыкласціся да чарачкі. Дзеянне грыбоў захоўваецца некалькі дзён. І шматлікія пасля гэтага ў спалоху за сваё жыццё і здароўе надоўга (а часам і назаўжды!) зракаюцца ад спіртнога, вырашыўшы, што дапіліся да чорцікаў.

## Луцк: каб не сухі закон у Мосары тутэйшую краму даўно б закрылі

На заканчэнне паездкі ў Мосар усе адзінадушна рашылі наведацца ў Луцк-Масарскі, куды, як магнітам, цягне ўсіх незадаволеных сухім законам у Мосары. Жаданая мара!

Прыехалі. Крама зачыненая. Чытаем шыльду. Працуе з 10^00^ да 14^00^, выхадны – субота. Ну, во! І тут усё прадугледзілі. Калі ўлічваць, што стандартны працоўны дзень – з 8^00^ да 17^00^, то крама мусіць працаваць хаця б да 18^00^. Не такая ўжо і жаданая мара! Ніяк не выпадае збегаць у краму, застаецца толькі нядзеля.

Аднак бачым, што загадчыца магазіна звонку скаладае прывезены торфабрыкет у дапаможнае памяшканне… Пачуўшы, што прыехала журналістка з самой "Комсомольской Правды", добразычліва на некалькі хвілінаў адчыніла краму, каб паказаць асартымент. Набор тавараў – стандартны для невялікай вясковай крамы. Ёсць цыгарэты, але недарагія, няма "элітных", такіх, як у Глыбокім, накшталт "Winston", ёсць піва і моцныя напоі, але не такі шырокі выбар, як у глыбоцкім супермаркеце, ці, скажам, у магазіне в. Удзела. Усё – толькі першай неабходнасці: ад запалак да хлеба і алею. А што яшчэ трэба для вясковай крамы, дзе жывуць, фактычна, адны пенсіянеры. Еміна (на ўсю вёску!), якая хутка псуецца, лёгка змяшчаецца і захоўваецца ў адным халадзільніку.

Загадчыца крамы сп-ня Мурзіч – з пыповым для гэтых мясцінаў прозвішчам – рэзюмуе не без гумару: "Калі б у Мосары адмянілі сухі закон – лічы, што трэба было б пісаць заяву на звальненне, бо краму ў Луцку зачынілі б адразу. А што той Луцк – пад 40 пенсіянераў! А так нас ратуе толькі Мосар ".

## Жыхарам Мосара пажыццёва наканавана быць непітушчымі?

У 1991 годзе аўтар гэтых радкоў быў запрошаны ў Віцебск на краязнаўчую канферэнцыю з нагоды 830-х угодкаў крыжа Еўфрасінні Полацкай… Увечары, у праваслаўным манастыры, адбылася вячэра. Вячэру гатавалі манахі. На сталах стаялі розныя стравы, і, каб апетыт быў лепшы, манахі штораз падносілі на стол віны, як памятаецца, "Кагор" і яшчэ нейкія… Аказваецца, і манахі п'юць, але не "чарніла" і не гарэлку, а вытанчаныя гатункі віна. Дый само віно, як цвердзяць гісторыкі, вынайшлі манахі! Можа п'юць толькі праваслаўныя манахі? Не! І каталіцкія манахі не адстаюць! Згадайце матэрыял Аляксандра Івашчонка "Мястэчка Глыбокае", дзе ён пісаў аб тым, што манахам кармелітам, якія неслі пакаранне ў карцары, разам з ежай прыносілі пітво, але не ваду, а – піва ці віно (тады яшчэ не існавала тэхналогіі ачысткі вады ад шкодных мікробаў).

Я не думаю, калі б на паліцах мосарскіх крамаў, раптам, з'явіўся "Кагор", "Рыслінг", каньяк "Напалеон", то мосарскі народ, "прыгнечаны" шматгадовай антыалкагольнай прапагандай, ламануўся б штурмам браць мясцовыя крамы. Не, упэўнены! Як рабілі цяжкі пахмельны шлях за "чарнілам" і гарэлкай у Луцк, так бы і рабілі надалей.

Зразумела, ксёндз Ё. Булька, "палку перагнуў", але наўрад ці будзе зроблены крок назад. Не радуйцеся загадзя! Аўтарытэт айца Ёзаса ва ўсёй краіне настолькі вялікі, што звароту на паліцы хоць і вытанчаных напояў, наўрад ці магчымы.

## А што далей? Якія перспектывы ў Мосара?

У Мосары створаны філіял Глыбоцкага гісторыка-этнаграфічнага музея і ўведзена платнае наведванне. Гэты факт прыезджых вельмі здзіўляе: чаму трэба плаціць дзяржаве, а не касцёлу, бо ўся гэтая прыгажосць створаная рукамі мясцовых парафіянаў і славутага ксяндза Ёзаса Булькі? На гэтае сакраментальнае пытанне журналістам адказала Марыя Ткачонак, супрацоўніца Мосарскага культурна-дэндралагічнага комплексу, які з'яўляецца філіялам Глыбоцкага гісторыка-этнаграфічнага музея.

– Ксёндз Ёзас Булька разумеў, што надыходзіць час, калі культурна-дэндралагічны комплекс трэба аддаць у надзейныя рукі, каб усё, што тут створана, бясследна не знікла. Але аддаць каму? Людзі, якія стварылі ўсю гэтую прыгажосць – няўмольна старэюць, моладзі мала. Пасля доўгіх абмеркаванняў было прынята адзінаправільнае рашэнне: на частцы тэрыторыі комплексу, землі якога належаць дзяржаве – увесці платнае наведванне, на той частцы, якая належыць касцёлу – уваход вольны. Цяпер тут стала працуе шэсць чалавек, якія падтрымліваюць парадак і чысціню ў культурна-дэндралагічным комплексе, ёсць і экскурсавод. Гэтыя людзі атрымліваюць заробак.

Спадарыня Марыя – вельмі гаваркая, так загрузіла журналістаў сваімі захопленымі аповядамі пра Мосар, ва ўсіх драбязах, што тыя доўга пераварвалі пачутае. А ўжо як яна расхваліла ваду з мосарскай крыніцы!!! І агуркі ў ёй закатвае, і лечыць яна ад розных хваробаў, а колькі ў ёй мікраэлементаў… Дык журналісткі ўвесь час знаходжання ў Мосары бедавалі, што не ўзялі з сабой посуд для вады.

Усё гэта цудоўна! Але турыстычны бум у Мосар не можа быць вечны. Так, людзі ездзілі і будуць ездзіць у Мосар, але гэта ўжо не будзе масавай і сістэмнай з'явай. Хто хацеў – той Мосар даўно наведаў і заспеў легендарнага ксяндза Ёзаса Бульку.

А што рабіць надалей?



Палац Берастоўскіх (Бжастоўскіх) у Мосары, XVIII ст. Разбураны ў 1918 г. *Рэканструкцыя Ул. Скрабатуна.*

Я мяркую, што Мосар, як рушыў у сваім кірунку – культурна-гістарычнага цэнтра – так мусіць рушыць і надалей. Аднак можна пашукаць новыя шляхі прымнажэння мосарскіх славутасцяў.

На тэрыторыі Мосарскага льнозавода захаваліся рэшткі парка колішняй сядзібы графаў Берастоўскіх, фундатараў касцёла св. Ганны. Захаваліся, нават некаторыя будынкі: стайня (перобленая пад кацельню), некалькі аўтэнтычных гаспадарчых будынкаў. Я не ведаю, на колькі патрэбны дзяржаве Мосарскі льнозавод, калі наша краіна не можа адэкватна рэагаваць на сусветную кітайскую экспансію ў гэтай галіне, калі аналагічны завод у Падсвіллі сваім скрушным выглядам проста палохае …

Маё глыбокае перакананне, калі Мосарскі льнозавод усё ж патрэбны дзяржаве, а найперш жыхарам паселішча, як сталае месца працы, то можа лепш дзесьці побач узвесці новы, кампактны, сучасны льнозавод, а парк (яго рэшткі) перадаць Мосарскаму культурна-дэндралагічнаму комплексу.

Парк можна аднавіць новымі пасадкамі, тым больш, што захавалася вялікая яго частка. Я думаю, што ў архівах Вільні ці Маладзечна захаваліся старадаўнія яго планы. У перспектыве – пажадана аднавіць і саму рэзідэнцыю Берастоўскіх – палац.

Я ўжо не буду фантазіраваць, якія тады, у перспектыве, можна ладзіць фестывалі ў Мосары! І Мосар на ўсім гэтым можа і някепска зарабляць, а гэта новыя працоўныя месцы!

Толькі не пытайцеся: дзе на тое ўзяць грошы? Ёсць сусветны досвед! Найперш трэба стварыць адмысловы Фонд для рэалізацыі гэтага праекту. Няхай частку сродкаў дасць дзяржава, частку інвестары, а іншую (хоць і невялікую) можна сабраць і ў Мосары. Парк той цалкам можна аднавіць і высілкамі валанцёраў. Такім метадам, дзякуючы прыватнай ініцыятыве, аднаўляюць, напрыклад, замак у Любчы. Стваравюцца адмысловыя летнікі, прыязджае моладзь з усяе Беларусі і дапамагае разбіраць завалы, нарыхтоўваць цэглу ад разборкі непатрэбных пабудоваў…. І замак штогод адраджаецца ў прыгажосці сваёй навізны.

Прыкладаў шмат! І мая прапанова не фантастыка. Ёсць што абмяркоўваць...





У Віцебску такой экзотыкі не знойдзеш! А ў Мосары – ледзьве не ў кожным двары, а не толькі побач з касцёлам св. Ганны, дзе месяцца вальеры з рознымі жывёламі.

**А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Непамятлівасць вельмі дорага каштуе

**Лес - адно з асноўных багаццяў нашай краіны, ад таго, як мы будзем ставіцца да яго захаванасці, залежыць наша будучыня.**

Лясістасць тэрыторыі рэспублікі складае больш 37%. Нягледзячы на ўсё гэтае багацце, праблемай застаецца драпежніцкае стаўленне да лесу. Нярэдкія выпадкі нахабнага крадзяжу лесу, прычым выразаюцца самыя лепшыя дрэвы, забіраецца самая карысная частка дрэва, а астатняе кідаецца.

Так званыя «індывідуальныя прадпрымальнікі» вельмі часта карыстаюцца занятасцю, бескантрольнасцю, а часам і матэрыяльнай зацікаўленасцю леснікоў, купляючы 10 м$^3$. дроў на законных падставах, затым вывозяць 20-30 м$^3$ і больш па адным і тым жа дакуменце, на чым вельмі добра зарабляюць.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету штомесяц выяўляюць такія факты і прыцягваюць вінаватых да строгай адказнасці. Асабліва парушальнікі актывізуюцца ў перадзімовы і зімовы перыяд.

З надыходам восені жыхары раёна ўсё актыўней пачынаюць нарыхтоўваць дровы, асабліва на землях сельскагаспадарчага прызначэння. Шматлікія грамадзяне карыстаюцца не сапраўднымі дакументамі (даведка аграннома гаспадаркі, сельскага Савета і г.д.) Зважаем грамадзян, што адзіны дакумент, які дазваляе нарыхтоўку і вывазку драўніны з земляў с/г прызначэння, гэта ордар на нарыхтоўку драўніны, выдадзены мясцовым лясніцтвам, усе астатнія даведкі ад іншых арганізацый – не сапраўдныя. Высечка дрэў па рашэнні сельскага выканаўчага камітэта дазваляецца толькі на землях населеных пунктаў. Закон Рэспублікі Беларусь «Пра раслінны свет» частка 37 «Выдаленне аб'ектаў расліннага свету» выразна абвяшчае, што выдаленне, у тым ліку высечка, драўняных ці хмызняковых аб'ектаў расліннага свету, размешчаных на землях любых катэгорый, за выключэннем земляў населеных пунктаў, ажыццяўляецца ў парадку, усталяваным лясным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь і заканадаўствам Рэспублікі Беларусь пра раслінны свет.

Асобныя грамадзяне не спяшаюцца звярнуцца ў лясніцтвы з нагоды нарыхтоўкі дроў, а самастойна спрабуюць іх нарыхтаваць у забароненых месцах. Такія факты супрацоўнікамі міжрайінспекцыі выяўляюцца, і вінаватыя нясуць суровае пакаранне. Так, жыхар Пастаўскага раёна грамадзянін П., (з этычных меркаванняў прозвішча і месца жыхарства не ўказваецца) на землях сельскагаспадарчага прызначэння здзейсніў незаконную высечку 16 м$^3$ дрэў дуба, асіны, алешыны, агульны ўрон і штраф склаў амаль 6 млн. рублёў. Вінаваты цалкам прызнаў факт парушэння і растлумачыў, што не ведаў пра неабходнасць звяртацца ў лясніцтва за дазволам. Працаўнікі лясніцтваў праводзяць адвод на нарыхтоўку драўніны на землях сельскагаспадарчага прызначэння, толькі ў тых месцах, дзе вызначана рашэннем раённага выканаўчага камітэта. За незаконную рубку драўніны на землях сельскагаспадарчага прызначэння прадугледжаны штраф да 30 базавых велічынь з пакрыццём прычыненага ўрону (за кожнае ссечанае дрэва)

За 9 месяцаў 2012 года супрацоўнікамі міжрайінспекцыі ў парушальнікаў канфіскавана 337 м$^3$ незаконна высечанай драўніны, прад'яўлены ўрон на суму больш 100 млн. рублёў.

Пасля нарыхтоўкі драўніны, нярэдкія выпадкі яе вывазкі без неабходных дакументаў або без адзнакі службовай асобы лясгаса пра водпуск драўніны. Такія парушэнні супрацоўнікамі інспекцыі перарываюцца, і вінаватыя нясуць адказнасць. Непамятлівасць вельмі дорага каштуе. За дадзенае парушэнне заканадаўства прадугледжвае штраф у памеры да 20 базавых велічынь.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 8-02156- 2-86-70, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 (мтс).

# Правілы трэба выконваць

**Ішуцін А.Н.**
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА «Энерганагляду».*

**У сродках масавай інфармацыі ўжо не раз ўнімалася пытанне пра выкананне тэхнікі бяспекі пры работах, якія праводзяцца паблізу паветраных і кабельных ліній электраперадач. У працоўных калектывах і з асобамі, адказнымі за вытворчасць дадзеных работ, увесь час праводзяцца інструктажы і навучанне па бяспечнай вытворчасці работ паблізу ліній электраперадач. Людзі здаюць іспыты, атрымліваюць пасведчанні і тут жа забываюць пра атрыманыя веды, што вельмі часта прыводзіць да няшчасных выпадкаў.**

29.08.2012 г. пры самавольным правядзенні паграза-разгрузачных работ у ахоўнай зоне ВЛ-10 кв без выканання мер бяспекі і без заяўкі на правядзенне работ у Слуцкія ЭС патрапіў пад дзеянне электрычнага току і загінуў вадзіцель сартыментавоза МАЗ - 6303 А8 (лесавоз з маніпулятарам).

20.09.2012 г. КУМП «Глыбоцкая ПМК-меліявадгаса» пры самавольным правядзенні меліярацыйных работ у ахоўнай зоне кабельнай лініі 10 кв, без атрымання пісьмовага дазволу на вытворчасць земляных работ ад Глыбоцкага РЭС, праводзячы паглыбленне меліярацыйнага канала, пашкодзілі кабельную лінію 10 кв і толькі па шчаслівай выпадковасці ніхто не пацярпеў.

У следстве з патрабаваннямі Правіл тэхнікі бяспекі пры рабоце з ужываннем механізмаў і грузапад'ёмных машын у ахоўнай зоне павінны праводзіцца па нараду-допуску. Перасоўванне механізмаў і грузапад'ёмных машын у ахоўнай зоне ВЛ дапушчаецца пад наглядам адказных асобаў.

Парадак і ўмовы правядзення работ у ахоўных зонах ліній электраперадач павінны быць узгоднена з арганізацыяй, якая эксплуатуе дадзеную лінію.

Забараняецца праводзіць, якія-небудзь дзеянні, якія могуць парушыць звычайную работу электрычных сетак, прывесці да іх пашкоджання ці да няшчасных выпадкаў.

Энерганагляд папярэджвае, што ў адпаведнасці з Кодэксам Рэспублікі Беларусь пра адміністрацыйныя правапарушэнні па артыкуле 20.3 « Парушэнне правіл аховы электрычных сетак» цягне накладанне штрафу ў памеры да 50 базавых велічынь, а на юрыдычную асобу да 500 базавых велічынь.



**Яўген Самсонаў**

# Ні разу каманда Глыбоцкага РАУС не вярталася дамоў без прызавых узнагарод

На чэмпіянаце УУС Віцебскага аблвыканкама па рукапашнаму бою, які адбыўся 26 верасня ў г. Віцебску, каманда Глыбоцкага РАУС, у складзе кандыдата ў майстры спорту, старэйшага інспектара ДПС аддзела ДАІ, капітана міліцыі Міхаіла Цынковіча і ўчастковага інспектара Сяргея Цырбана, заваявала срэбраныя ўзнагароды сярод райаддзелаў вобласці і бронзу сярод БФСГ "Дынама". Увогуле, з прыходам на службу Міхаіла яшчэ ні разу каманда Глыбоцкага РАУС не вярталася дамоў без прызавых узнагарод.



У асабістым заліку, у вагавай катэгорыі 90 кілаграмаў, Міхаілу Цынковічу не знайшлося роўных не толькі сярод аддзелаў вобласці, але і сярод крутых салавутых сілавых структур – спецназу, пагранічнікаў і г.д.

Цяпер Міхаіл знаходзіцца на зборах у абласным цэнтры і рыхтуецца да ўдзелу ў рэспубліканскіх спаборніцтвах.

Добры вынік у асабістым заліку паказаў і яго паплечнік па камандзе, пачынаючы адзінаборац Сяргей Цырбан, заняўшы другое месца сярод аддзелаў.

Зампаліт Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі Ігар Шышко паведаміў, што ў РАУСе спорту ўдзяляецца шмат увагі. Апроч заняткаў па фізічнай падрыхтоўцы і здачы залікаў, праводзяцца спаборніцтвы паміж службамі аддзелаў. Лепшыя спартсмены прымаюць удзел у раённых і абласных спаборніцтвах. Не забывае кіраўніцтва РАЎС і аб узнагароджванні спартсменаў. Заахвочваюцца не толькі лепшыя спартоўцы, якія занялі прызавыя месцы на спартыўных спаборніцтвах, але і тыя, якія сталі лепшымі па выніках здачы залікаў.

**На здымку:** М. Цынковіч і С.Цырбан з узнагародамі.

# Запрашаем на службу!

**Аддзел унутраных спраў Глыбоцкага райвыканкама** ажыццяўляе прыём грамадзян для праходжання службы ў органах унутраных спраў на пасадах радавога і малодшага кіравальнага складу.

Патрабаванні да кандыдатаў на службу:

- мужчыны ва ўзросце да 25 гадоў;
- адукацыя сярэдняя, прафесійна-тэхнічная, сярэдняя спецыяльная;
- прыдатнасць да ваеннай службы;
- высокія маральныя і дзелавыя якасці.

Гарантуецца высокая заработная плата, дзяржаўнае страхаванне, дадатковы адпачынак за выслугу гадоў, магчымасць атрымання вышэйшай адукацыі.

Запрашаем таксама выпускнікоў сярэдніх школ раёна, а таксама грамадзян ва ўзросце да 25 год працягнуць навучанне ва ўстановах адукацыі МУС Рэспублікі Беларусь: «Акадэмія МУС Рэспублікі Беларусь» і «Магілёўскі вышэйшы каледж МУС Рэспублікі Беларусь».

Усіх ахвотных больш падрабязна азнаёміцца з умовамі паступлення, а таксама з умовамі службы ў органах унутраных спраў, чакаем у аддзеле ўнутраных спраў Глыбоцкага райвыканкама (кантактны тэлефон: 22539, МТС 305-40-34, 711-84-96, ВЕЛКОМ: 345-40-34).

*І.П. Шышко, тэл. мтс. 305-40-34*

# Пашыраныя віды дзейнасці рамеснікаў, якія падтрымлівае дзяржава

**У Беларусі пашыраныя віды дзейнасці рамеснікаў, якія падтрымлівае дзяржава. Аляксандр Лукашэнка 27 верасня падпісаў указ № 432 «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў ва ўказ № 225 прэзідэнта ад 16 мая 2005 г.».**

Як паведамілі ў прэс-службе кіраўніка дзяржавы, новым дакументам дапоўненыя віды рамеснай дзейнасці, прадугледжаныя ўказам № 225 ад 16 мая 2005 года «Аб некаторых пытаннях ажыццяўлення фізічнымі асобамі рамеснай дзейнасці». Акрамя таго, канкрэтызаваныя і пашыраныя віды дзейнасці, якія ўжо змяшчаюцца ва ўказе № 225 .

Значна пашыраны таксама асартымент вырабаў ручной работы і матэрыялаў, з якіх дапускаецца іх выраб.

Указ скіраваны на стымуляванне развіцця рамеснай творчасці ў краіне, легалізацыю і развіццё адносін у сферы ажыццяўлення фізічнымі асобамі рамеснай дзейнасці, павышэнне самазанятасці насельніцтва.

Як раней паведамляў БелаПАН, на 1 ліпеня ў Беларусі ажыццяўлялі сваю дзейнасць 6.740 рамеснікаў, што ў паўтара раза перавышае аналагічны паказчык за адпаведны перыяд мінулага года (4.596).

За шэсць месяцаў гэтага года больш за ўсё рамеснікаў было зарэгістравана ў Мінску (1.435) і Віцебскай вобласці (1.221), менш за ўсё — у Магілёўскай (670).

Указам прэзідэнта № 225 ад 16 мая 2005 года вызначаны пералік відаў рамеснай дзейнасці, якія фізічныя асобы маюць права ажыццяўляць па заяўным прынцыпе без дзяржрэгістрацыі ў якасці індывідуальных прадпрымальнікаў. Для пачатку рамеснай дзейнасці трэба стаць на ўлік у падатковым органе па месцы жыхарства і выплаціць збор у памеры адной базавай велічыні ў год. Рамеснікі не выплачваюць падаходны падатак і адзіны падатак з індывідуальных прадпрымальнікаў і іншых фізічных асоб, а таксама не вядуць дзяржаўную статыстычную справаздачнасць.

*Аляксей Арэшка, БелаПАН.*

# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»



## ПАНЯДЗЕЛАК, 8 кастрычніка

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00**, **07.15**, **08.20** Доброе утро, Беларусь!
**07.00**, **08.00** (с сурдопереводом), **09.00**, **12.00**, **15.00**, **19.00**, **23.50** Новости.
**07.05**, **08.05** Деловая жизнь.
**07.10**, **08.10** Зона Х.
**09.10** В центре внимания.
**10.05** Клуб редакторов.
**10.45** Вокруг планеты.
**11.25** Журналистское расследование.
**12.15** **«Снайпер. Оружие возмездия»**. 1-я серия.
**13.25** Док.сериал «Мастер путешествий» (США).
Фильм «Романтическая дорога Германии».
**14.00** Док.цикл «Звездная жизнь» (Украина). Фильм «Обмануть звезду».
**15.15**, **19.20** Новости региона.
**15.25** **«Здравствуй, мама!»** (Украина).
**16.20** Док.драма «Мистические истории» (Украина).
**17.20** «ВИА ГРА». Часть 3-я, заключительная.
**18.30** Командировка.
**18.45**, **23.40** Зона Х. Криминальные новости.
**19.40** Калыханка.
**19.50** **«Соседи»** (Россия).
**21.00** Панорама.
**21.45** Форум.
**22.45** **«Звездные врата. Первый отряд»** (США-Канада).
**00.05** День спорта.
**00.20** **«Снайпер. Оружие возмездия»**. 1-я сер.

### АНТ




**06.00**, **08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Добро пожаловать в Беларусь».
**12.05** Премьера. **«На край света»**
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Премьера сезона «Время обедать!».
**13.50** «Модный приговор».
**14.55** **«Обручальное кольцо»**
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** Людмила Гурченко в фильме **«Любимая женщина механика Гаврилова»**.
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Цыганская доля. Остаться собой».
**18.55** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Открытый формат».
**22.10** **«Закрытая школа»**
**23.15** «Вечерний Ургант».
**23.50** «Без свидетелей».
**00.20** **«Убойная сила»**
**01.20-01.50** Ночные новости.



### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Детективный сериал **«Следствие ведет Да Винчи»** (Канада).
**10.10** Навіны надвор'я.
**10.45** Битва экстрасенсов.
**11.55** Фильм-сказка **«Осенний подарок фей»**
**13.15** Школа ремонта.
**14.20** Под грифом «Известные».
**14.50** **«Гуманоиды в Королеве»** (Россия).
**15.30** Белорусское времечко.
**16.35** Мелодраматический детектив **«Мой личный враг»** (Россия). 1-я серия.
**17.50** Детективный сериал **«Следствие ведет Да Винчи»** (Канада).
**18.55** Приключенческий боевик **«Отряд»** (Россия).
**21.20** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Мелодраматический детектив **«Мой личный враг»** (Россия). 1-я серия.
**22.35** **«Гуманоиды в Королеве»** (Россия).
**23.10** Овертайм.
**23.40** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.

### СТВ




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.40** «Большой завтрак».
**10.15** «100 процентов».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Семейные драмы».
**11.35** «Званый ужин».
**12.35** **«Слово женщине»**
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Большой город».
**14.25** «Жить будете».
**14.45** Концерт Задорнова.
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** **«Слово женщине»**
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.30** «Кинопонедельник»: **«ДОЧЕНЬКА МОЯ»**. Украина, 2008 г.
**22.20** «Поющие города». Дневник. Полоцк.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Поговорим».
**23.05** «СТВ-спорт».
**23.10** «Тайны мира с Анной Чапман».
**00.05** «Адская кухня».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**7:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**7:15** Зона «Свабоды»
**7:45** Навігатар
**8:00** Кулінарныя падарожжы Макловіча
**8:30** Дак.гадзіна: «Токіа ад золку да змяркання»
**9:10** Два на два
**9:35** Euromaxx
**18:00** Назад у будучыню
**18:10** Вагон
**18:15** Еўропа сёння
**18:45** Калыханка для самых маленькіх
**19:00** Студыя «Белсат»
**19:30** Рэмарка
**20:00** Студыя «Белсат»
**20:30** Эксперт
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Не прапусці!
**21:45** Фільматэка майстроў: **«Русалка»**
**23:25** Аб'ектыў
**23:55** Маю права
**0:15** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы

## АЎТОРАК, 9 кастрычніка



**06.00**, **07.15**, **08.20** Доброе утро, Беларусь!
**07.00**, **08.00** (с сурдопереводом), **09.00**, **12.00**, **15.00**, **19.00**, **00.05** Новости.
**07.05**, **08.05** Деловая жизнь.
**07.10**, **08.10** Зона Х.
**09.10** **«Соседи»** (Россия).
**10.15** Командировка.
**10.25** Тайны следствия.
**10.55** **«Знахарь-2. Охота без правил»** (Россия).
**12.15** **«Снайпер. Оружие возмездия»**. 2-я серия.
**13.20** Док.сериал «Будь в тонусе!» (Австралия).
**14.00** **«Звездные врата. Первый отряд»** (США-Канада).
**15.15**, **19.20** Новости региона.
**15.25** **«Здравствуй, мама!»** (Украина).
**16.15** Врачебные тайны с доктором А.Терещенко.
**16.40** Док.сериал «Невероятные истории любви» (Украина).
**17.30** **«Маруся. Испытания»** (Украина).
**18.25** Сфера интересов.
**18.45**, **23.55** Зона Х. Криминальные новости.
**19.40** Калыханка.
**19.50** **«Соседи»** (Россия).
**21.00** Панорама.
**21.45** Актуальное интервью.
**21.55** **«Знахарь-2. Охота без правил»** (Россия).
**23.05** **«Звездные врата. Первый отряд»** (США-Канада).
**00.25** День спорта.
**00.35** **«Снайпер. Оружие возмездия»**.2-я сер.



**06.00**, **08.30** Наши новости.
**09.00** Наши новости (с субтитрами).
**06.05** «Наше утро».
**09.05** «Жить здорово!».
**10.20** «Понять. Простить».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** Премьера. «Дешево и сердито» с Дарьей Донцовой.
**12.05** Премьера. **«На край света»**
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Премьера сезона «Время обедать!».



**13.50** «Модный приговор».
**14.55** **«Обручальное кольцо»**
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Контрольная закупка».
**16.55** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Смеха ради».
**18.55** «Пусть говорят»
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Премьера. **«Чкалов»**
**22.15** «Тема дня».
**22.25** **«Закрытая школа»**
**23.35** «Вечерний Ургант».
**00.10** «Без свидетелей».
**00.40** **«Убойная сила»**
**01.40**-**02.10** Ночные новости.

2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Детективный сериал **«Следствие ведет Да Винчи»** (Канада).
**10.10** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.
**11.05** Овертайм.
**11.40** Репортер «Белорусского времечка».
**12.55** Приключенческий боевик **«Отряд»**
**14.55** **«Гуманоиды в Королеве»** (Россия).
**15.30** Белорусское времечко.
**16.35** Мелодраматический детектив **«Мой личный враг»** 2-я с.
**17.50** Детективный сериал **«Следствие ведет Да Винчи»** (Канада).
**18.55** Футбол. Чемпионат мира 2014. Видеожурнал.
**19.25** Хоккей. КХЛ. Динамо (Рига) – Динамо (Минск). Прямая трансляция.
**21.45** КЕНО.
**21.50** Телебарометр.
**21.55** Мелодраматический детектив **«Мой личный враг»** (Россия). 2-я серия.
**23.05** **«Гуманоиды в Королеве»** (Россия).
**23.40** Криминальная комедия **«Воровка»**



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Поющие города». Дневник. Полоцк.
**08.40** «Кино»: **«ДОЧЕНЬКА МОЯ»**. Украина, 2008 г.
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Семейные драмы».
**11.35** «Званый ужин».
**12.35** **«Слово женщине»**
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Кино»: **«ПРОСНУВШИСЬ В РИНО»**. США, 2002 г.
**15.30** «Военная тайна».
**16.30** «24 часа».
**16.50** **«Следаки»**. Сериал.
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** **«Слово женщине»**
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.30** «Кино»: **«ОДИНОКИМ ПРЕДОСТАВЛЯЕТСЯ ОБЩЕЖИТИЕ»**
**22.20** «Поющие города». Дневник. Новополоцк.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Поговорим».
**23.05** «СТВ-спорт».
**23.10** «Автопанорама».
**23.30** «Женщины ХХ века» с Элеонорой Езерской. «Алла Ларионова - царица бала».
**00.00** **«Доктор Тырса»**. Сериал.
**00.50** «Жадность».



**7:00** Студыя «Белсат»
**7:30** Рэмарка
**8:00** Студыя «Белсат»
**8:30** Эксперт
**9:00** Аб'ектыў
**9:25** Не прапусці!
**9:40** Еўропа сёння
**17:50** Рэмарка
**18:15** На колах
**18:45** Калыханка для самых маленькіх: **«Гэй, слон!»**
**19:00** Студыя «Белсат»
**19:30** Відзьмо-невідзьмо
**20:00** Студыя «Белсат»
**20:30** Сальда
**20:50** Вагон
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Студыя «Белсат»
**21:40** **«Глыбокая вада»**: 5 серыя
**22:30** Форум (ток-шоу)
**23:15** Аб'ектыў
**23:40** Невядомая Беларусь: «Людзі з граніту», рэпартаж, 2012 г., Літва
**0:00** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы







## СЕРАДА, 10 кастрычніка



**06.00**, **07.15**, **08.20** Доброе утро, Беларусь!
**07.00**, **08.00** (с сурдопереводом), **09.00**, **12.00**, **15.00**, **19.00**, **00.05** Новости.
**07.05**, **08.05** Деловая жизнь.
**07.10**, **08.10** Зона Х.
**09.10** **«Соседи»** (Россия).
**10.10** Сфера интересов.
**10.30** Требуется.
**10.45** Актуальное интервью.
**11.00** **«Знахарь-2. Охота без правил»** (Россия).
**12.15** **«Снайпер. Оружие возмездия»**. 3-я серия.
**13.25** Док.сериал «Самобытные культуры» (Германия).
**14.00** **«Звездные врата. Первый отряд»** (США-Канада).
**15.15**, **19.20** Новости региона.
**15.25** **«Здравствуй, мама!»** (Украина).
**16.25** Коробка передач.
**17.00** Завтра -это мы!
**17.30** **«Маруся. Испытания»** (Россия-Украина).
**18.30** Специальный репортаж.
**18.45**, **23.55** Зона Х. Криминальные новости.
**19.40** Калыханка.
**19.50** **«Соседи»** (Россия).
**21.00** Панорама.
**21.45** Актуальное интервью.
**21.55** **«Знахарь-2. Охота без правил»** (Россия).
**23.05** **«Звездные врата. Первый отряд»** (США-Канада).
**00.20** День спорта.
**00.35** **«Снайпер. Оружие возмездия»**. 3-я сер.



**06.00**, **08.30** Наши новости.
**09.00** Наши новости (с субтитрами).
**06.05** «Наше утро».
**09.05** «Жить здорово!».
**10.20** «Понять. Простить».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** Премьера. «Дешево и сердито» с Дарьей Донцовой.
**12.05** Премьера. **«На край света»**
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Премьера сезона «Время обедать!».
**13.50** «Модный приговор».
**14.55** **«Обручальное кольцо»**
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Контрольная закупка».
**16.55** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Смеха ради».
**18.55** «Пусть говорят»
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** **«Чкалов»**
**22.15** «Тема дня».
**22.25** **«Закрытая школа»**
**23.35** «Вечерний Ургант».
**00.10** «Без свидетелей».
**00.40** **«Убойная сила»**
**01.40**-**02.10** Ночные новости.



**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Детективный сериал **«Следствие ведет Да Винчи»** (Канада).
**10.10** Напярэд у мінулае.
**10.50** Мелодрама **«Прошлогодняя кадриль»**
**12.20** **«Воровка»**
**14.30** **«Гуманоиды в Королеве»** (Россия). Заключительные серии.
**15.30** Белорусское времечко.
**16.35** **«Мой личный враг»** (Россия). 3-я серия.
**17.50** Детективный сериал **«Следствие ведет Да Винчи»** (Канада).
**18.55** **«Отряд»**
**21.20** Телебарометр.
**21.25** Спортлото 5 из 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** **«Мой личный враг»** (Россия). 3-я серия.
**22.40** **«Гуманоиды в Королеве»** (Россия). Заключительные серии.
**23.40** Футбол. Чемпионат мира 2014. Видеожурнал.
**00.10** Мелодрама **«Прошлогодняя кадриль»**



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Автопанорама».
**08.50** «Поющие города». Дневник. Новополоцк.
**09.00** «Кино»: **«ОДИНОКИМ ПРЕДОСТАВЛЯЕТСЯ ОБЩЕЖИТИЕ»**
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Семейные драмы».
**11.35** «Званый ужин».
**12.35** **«Слово женщине»**
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Не ври мне!».
**14.45** **«Доктор Тырса»**. Сериал.
**15.35** «Час суда с Павлом Астаховым».
**16.30** «24 часа».




**16.50** **«Следаки»**. Сериал.
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** **«Слово женщине»**
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.30** «Кино»: **«ФАБРИКА СЧАСТЬЯ»**. Украина, 2007 г.
**22.20** **«Поющие города». Дневник. Глубокое.**
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Поговорим».
**23.05** «СТВ-спорт».
**23.10** «Добро пожаловать».
**23.30** «Минск и минчане».
**00.00** **«Доктор Тырса»**. Сериал.
**00.50** «Странное дело».



**7:00** Студыя «Белсат»
**7:30** Відзьмо-невідзьмо
**8:00** Студыя «Белсат»
**8:30** Сальда
**8:50** Вагон
**9:00** Аб'ектыў
**9:25** Студыя «Белсат»
**9:40** На колах
**18:00** Сальда
**18:15** Праект «Будучыня»
**18:45** Калыханка для самых маленькіх: «Таямніца шыфру Марабу»
**19:00** Студыя «Белсат»
**19:30** Над Нёмнам (тэлечасопіс)
**19:45** Гісторыя пад знакам Пагоні
**20:00** Студыя «Белсат»
**20:30** Маю права
**20:50** Моўнік
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Студыя «Белсат»
**21:45** **«Праведнікі»**: 4 серыя
**22:30** Відзьмо-невідзьмо
**22:55** Аб'ектыў
**23:25** Рэпартэр
**23:50** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы



## ЧАЦВЕР, 11 кастрычніка



**06.00**, **07.15, 08.20** Доброе утро, Беларусь!
**07.00**, **08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 15.00, 19.00 , 00.05** Новости.
**07.05**, **08.05** Деловая жизнь.
**07.10, 08.10** Зона Х Техническая профилактика с 09.05 до 15.00.
**15.15**, **19.20** Новости региона.
**15.25 «Здравствуй, мама!»** (Украина).
**16.20** Перезагрузка.
**17.05** «Все путём!»
**17.30 «Маруся. Испытания»** (Россия-Украина).
**18.25** Сфера интересов.
**18.45**, **23.55** Зона Х. Криминальные новости.
**19.40** Калыханка.
**19.50 «Соседи»** (Россия) . Заключительная серия.
**21.00** Панорама.
**21.45** Актуальное интервью.
**21.55 «Знахарь-2. Охота без правил»** (Россия).
**23.05 «Звездные врата. Первый отряд»** (США-Канада).
**00.20** День спорта.
**00.35 «Снайпер. Оружие возмездия»**. 4-я серия, заключительная.



**06.00**, **08.30** Наши новости.
**09.00** Наши новости (с субтитрами).
**06.05** «Наше утро».
**09.05** «Жить здорово!».
**10.20** «Понять. Простить».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** Премьера. «Дешево и сердито» с Дарьей Донцовой.
**12.05** Премьера. **«На край света»**
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Премьера сезона «Время обедать!».
**13.50** «Модный приговор».
**14.55 «Обручальное кольцо»**
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Контрольная закупка».
**16.55** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Смеха ради».
**18.55** «Пусть говорят»
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Премьера.**«Чкалов»**
**22.15** «Тема дня».
**22.25 «Закрытая школа»**
**23.35** «Вечерний Ургант».
**00.10** «Без свидетелей».
**00.40 «Убойная сила»**
**01.40-02.10** Ночные новости.






**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05-15.00** Техническая профилактика.
**15.00** Футбол. Чемпионат мира 2014. Видеожурнал.
**15.30** Белорусское времечко.
**16.35** Мелодраматический детектив **«Мой личный враг»** (Россия). 4-я серия, заключительная.
**17.50** Детективный сериал **«Следствие ведет Да Винчи»** (Канада).
**18.55** Хоккей. КХЛ. Донбасс - Динамо (Минск). Прямая трансляция.
**21.20** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Мелодраматический детектив **«Мой личный враг»** (Россия). 4-я серия, заключительная.
**22.35** Время футбола.
**23.25** Баскетбол. Лига ВТБ. Цмокі-Мінск - Енисей.



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Добро пожаловаться».
**08.50 «Поющие города». Дневник. Глубокое.**
**09.00** ПРОФИЛАКТИКА 09.00 - 15.00.
**15.00** «Званый ужин».
**15.35** «Час суда с Павлом Астаховым».
**16.30** «24 часа».
**16.50 «Следаки»**. Сериал.
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Слово женщине»**
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.30** «Кино»: Александра Пол, Майкл Вудс и Синтия Гибб в **«ДЕМОНЫ ПРОШЛОГО»**. США-Канада, 2008 г.
**22.20** «Поющие города». Дневник. Поставы.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Поговорим».
**23.05** «СТВ-спорт».
**23.10** «Автопанорама».
**23.30** «Центральный регион».
**00.00 «Доктор Тырса»**. Сериал.
**00.50** «Красиво жить».



**7:00** Студыя «Белсат»
**7:30** Над Нёмнам (тэлечасопіс)
**7:45** Гісторыя пад знакам Пагоні
**8:00** Студыя «Белсат»
**8:30** Маю права
**8:50** Моўнік
**9:00** Аб'ектыў
**9:25** Студыя «Белсат»
**9:40** Праект «Будучыня»
**17:55** Маю права
**18:15** Euromaxx
**18:45** Калыханка для самых маленькіх: «Аблавушак»
**19:00** Студыя «Белсат»
**19:30** «Пераемнікі»
**19:45** Моўнік
**20:00** Студыя «Белсат»
**20:30** Рэпартэр
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Студыя «Белсат»
**21:40 «Дом ля поплаву»**: 5 серыя
**22:30** «Справа Фэрўэла: шпіён веку»
**23:20** Аб'ектыў
**23:45** Два на два
**0:15** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы






## ПЯТНІЦА, 12 кастрычніка



**06.00**, **07.15, 08.20** Доброе утро, Беларусь!
**07.00**, **08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 02.30** Новости.
**07.05**, **08.05** Деловая жизнь.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10 «Соседи»** (Россия). Заключительная серия.
**10.10** Сфера интересов.
**10.25** Требуется.
**10.45** Актуальное интервью.
**10.55 «Знахарь-2. Охота без правил»** (Россия).
**12.10 «Снайпер. Оружие возмездия»**. 4-я серия, заключительная.
**13.35** Завтра -это мы!
**14.05 «Звездные врата. Первый отряд»** (США-Канада).
**15.15**, **19.20** Новости региона.
**15.25** Культурные люди +.
**16.10** Католические святыни Беларуси.
**16.40** «Здоровье». Ток-шоу.
**17.25 «Маруся. Испытания»** (Россия-Украина).
**18.25**, 02.05 Зона Х. Итоги недели.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Док.цикл «Звездная жизнь» (Украина). Фильм «Замуж за иностранца».
**21.00** Панорама.
**21.45** Телефильм АТН «Трабант» цикла «Судьба гигантов».
**22.20 «Знахарь-2. Охота без правил»** (Россия).
**23.25** Док.драма «Мистические истории» (Украина).
**00.20** Премьера. Фильм ужасов **«Астрал»**
**02.45** День спорта.



**06.00**, **08.30** Наши новости.
**09.00** Наши новости (с субтитрами).
**06.05** «Наше утро».
**09.05** «Жить здорово!».
**10.20** «Понять. Простить».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** Премьера. «Дешево и сердито» с Дарьей Донцовой.
**12.05** Премьера. **«На край света»**
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Премьера сезона «Время обедать!».
**13.50** «Модный приговор».
**14.55 «Обручальное кольцо»**
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Контрольная закупка».
**16.55** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Жди меня». Беларусь.
**18.55** «Поле чудес».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Сегодня вечером»
**22.40** «Что? Где? Когда?» в Беларуси.
**23.55-02.00** Джонни Депп в фильме **«Ромовый дневник».**



**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Детективный сериал **«Следствие ведет Да Винчи»** (Канада).
**10.10** Время футбола.
**10.55** Школа ремонта.
**12.00** Остросюжетный боевик **«В зоне особого внимания»** (СССР).
**13.50** Приключенческий боевик **«Ответный ход»** (СССР).
**15.25** Криминальная комедия **«Нью-Йоркское такси»** (США – Франция).
**17.10** Белорусская кухня.
**17.45** Детективный сериал **«Следствие ведет Да Винчи»** (Канада).
**18.50** Арена.
**19.20** Фактор силы.
**19.55** Репортер «Белорусского времечка».
**20.50** Футбол. Отборочный матч чемпионата мира 2014 г. Беларусь - Испания. Прямая трансляция. В перерыве: 21.25 КЕНО.
**22.55** Телебарометр.
**23.00** Битва экстрасенсов.
**00.00** Криминальная комедия **«Нью-Йоркское такси»** (США – Франция).



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Автопанорама».
**08.50** «Поющие города». Дневник. Поставы.
**09.00** «Кино»: Александра Пол, Майкл Вудс и Синтия Гибб в фильме **«ДЕМОНЫ ПРОШЛОГО»**. США-Канада, 2008 г.
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Семейные драмы».
**11.35** «Званый ужин».
**12.35 «Слово женщине»**
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Не ври мне!».
**14.45 «Доктор Тырса»**. Сериал.
**15.35** «Час суда с Павлом Астаховым».
**16.30** «24 часа».
**16.50 «Следаки»**. Сериал.
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Слово женщине»**
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.30** 1/4 финала Первой лиги МС КВН.
**22.20** «Поющие города». Дневник. Лепель.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Поговорим».
**23.05** «СТВ-спорт».
**23.10** «Секретные территории».
**00.05** «Победи ПокерСтарз ПРО».
**00.55** «Специальный проект»: «Заговор серых кардиналов».



**7:00** Студыя «Белсат»
**7:30** «Пераемнікі»
**7:45** Моўнік
**8:00** Студыя «Белсат»
**8:30** Рэпартэр
**9:00** Аб'ектыў
**9:25** Студыя «Белсат»
**9:40** Euromaxx
**17:50** Відзьмо-невідзьмо
**18:20** На колах
**18:45** Калыханка для самых маленькіх: «Матыльда»
**19:00** Студыя «Белсат»
**19:30** ПраСвет
**20:00** Студыя «Белсат»
**20:30** Невядомая Беларусь: «Цівалі»
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Студыя «Белсат»
**21:40 «Варажба жарлянкі»**
**23:20** Аб'ектыў
**23:45** Эксперт
**0:10** Вагон



## СУБОТА, 13 кастрычніка




**06.35** Існасць.
**07.00** Доброе утро, Беларусь!
**09.00**, **12.00, 15.00, 19.00** Новости.
**09.10** Здоровье.
**09.55 «Деревенская комедия»** (Россия).
**11.05** «Все путем!»
**11.35** Земельный вопрос.
**12.20** Мультфильм **«Как Львенок и Черепаха песню пели».**
**12.25 «Мачеха»** (СССР).
**14.15** Вокруг планеты.
**15.10** Новости региона.
**15.35 «Баллада о доблестном рыцаре Айвенго»** (СССР).
**17.25** Док.сериал «Невероятные истории любви»
**18.25** Тайны следствия.
**19.10** Комедия **«Время радости»** (Россия).
**21.00** Панорама.
**21.40 «48 часов»** (США).
**23.30** День спорта.
**23.40 «Деревенская комедия»** (Россия).
**00.40** Перезагрузка.




**07.00** «Субботнее утро».
**08.00**, **09.00** Наши новости.
**09.05** «Смешарики».
**09.30** «Здоровье».
**10.35** «Смак».
**11.20** «Умницы и умники».
**12.05** Премьера. «Абракадабра».
**16.00** Наши новости.
**16.15** Новости спорта.
**16.20** Премьера. К 100-летию поэта «Максим Танк».
**17.05** Гандбол.Лига чемпионов. «Барселона – «Динамо-Минск». Прямая трансляция.
**18.40**«Один против всех».
**19.30** «Добро пожаловать в Беларусь».
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Премьера. «Голос».
**22.45** «Что? Где? Когда?».
**23.55-01.35** Премьера. «Легенды русского рока».




**06.45 «В зоне особого внимания»** (СССР).
**08.30 «Ответный ход»**
**10.10** Школа ремонта.
**11.20** Телебарометр.
**11.25** Наперад у мінулае.
**12.00** Под грифом «Известные».
**12.30**Шоу«Суперинтуиция».
**13.40** Белорусская кухня.
**14.15** Комедия **«Поли»**
**16.05 «Не бойся, я с тобой»**1-я и 2- я сер.
**19.00** Ваше лото.
**19.40**Лотерея «Пятерочка».
**19.50** Битва экстрасенсов.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Телебарометр.
**21.10** Битва экстрасенсов.
**22.20 «Голый пистолет 33 1/3: Последний выпад»**
**23.55** Шоу «Суперинтуиция».




**06.20** «Секретные территории».
**07.15** «Поющие города». Дневник. Лепель.
**07.25 «Солдаты-14»**
**09.00** «Представьте себе!».
**09.25** «Чистая работа».
**10.00** СТВ представляет: «Другая страна». «Украина. В предвыборном колесе».
**10.25** «Минск и минчане».
**11.00** «Поющие города». Дневник. Орша.
**11.10** «Кино»:**«ДЕНЬ СВЯТОГО ВАЛЕНТИНА»**.
**12.30** «Приключения дилетанта».
**13.05 «ТРАКТИР НА ПЯТНИЦКОЙ»**. СССР
**14.45** «Военная тайна».
**16.30** «24 часа».
**16.45** «Наше дело».
**17.00** «Большой город».
**17.40** «Кино»: **«УДИВИ МЕНЯ»**.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «СТВ-спорт».
**20.10 «ЧАСЫ»**.
**22.25 «Эхо из прошлого».**




**7:00** Студыя «Белсат»
**7:30** ПраСвет
**8:00** Студыя «Белсат»
**8:30** Невядомая Беларусь: «Цівалі», дак. фільм, 2012 г., Беларусь
**9:00** Аб'ектыў
**9:25** Студыя «Белсат»
**9:40** На колах
**10:10** Кулінарныя падарожжы Макловіча
**10:35** Маю права
**11:00** Форум (ток-шоу)
**11:45** Казкі для дзетак: «Цюхця, што ты за стварэнне?!», «Гэй, слон!», «Таямніца шыфру Марабу»
**12:10 «Школа на санцапёку»**: 16 серыя
**12:40 «Мой родны горад»**: 37 серыя
**13:00 «Дом ля поплаву»**: 5 серыя
**13:50 «Сенсацыі XX стагоддзя»**, серыял: «Гёрынг: цана смерці»
**14:40 «Праведнікі»**: 4 серыя
**15:25** «Справа Фэрўэла: шпіён веку»
**16:20 «Варажба жарлянкі»**
**18:00** «Пераемнікі»
**18:15** Еўропа сёння
**18:45** Калыханка для самых маленькіх: «Мядзведзік Фантазік»
**19:00** «Рэвалюцыя»
**19:55** Навігатар
**20:15** Зона «Свабоды»
**20:45** Назад у будучыню
**21:00** Аб'ектыў
**21:15** Два на два
**21:40** Суботні сеанс: **«Дзеці славы»**
**23:40** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 6 серыя
**0:25** Аб'ектыў
**0:40** Жаўтуха

СУБОТА, 13 кастрычніка



## НЯДЗЕЛЯ, 14 кастрычніка




**06.20** Мелодрама **«Мачеха»** (СССР).
**07.50** Слово Митрополита Филарета на Покров Пресвятой Богородицы.
**08.00** Док.сериал «Мастер путешествий» (США). Фильм «Рейн и Мозель».
**08.30** Врачебные тайны с доктором А.Терещенко.
**09.00**, **12.00, 15.00** Новости.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Тэлефільм АТН «Рудабельская кветка» цыкла «Зямля беларуская».
**09.55 «Деревенская комедия»** (Россия).
**10.55** Телефильм АТН «Трабант» цикла «Судьба гигантов».
**11.25** Зона Х. Итоги недели.
**12.15** Культурные люди +.
**13.00** «Блестящие. Не все то золото, что блестит». Часть 1-я.
**14.15** Клуб редакторов.
**15.10** Новости региона.
**15.30** Мультфильм **«Малыш и Карлсон».**
**15.55** Комедийная мелодрама **«Поездка в Америку»** (США).
**18.05** Коробка передач.
**18.35** Приключенческий боевик **«Миссия невыполнима-3»** (США).
**21.00** В центре внимания.
**21.55** Журналистское расследование.
**22.30** Триллер **«Фото за час»** (США).
**00.15 «Деревенская комедия»** (Россия).




**07.00** «Воскресное утро».
**08.00**, **09.00** Наши новости.
**09.05** Воскресная проповедь (с субтитрами).
**09.20** «Смешарики».
**09.35** «Непутевые заметки» с Дмитрием Крыловым.
**09.55** Пока все дома.
**10.50** «Фазенда».
**11.25** «Брэйн-ринг».
**12.25** Кирилл Сафонов, Наталья Рудова в многосерийном фильме **«Условия контракта».**
**16.00** Наши новости.
**16.15** Новости спорта.
**16.20** Премьера. «Анна Самохина. Не родись красивой».
**17.20** «Рыцарский турнир в Мирском замке».
**18.00** Евгения Добровольская , Алексей Гуськов, Александр Феклистов в детективе **«Подозрение».**
**20.00** Контуры.
**21.05** «Клуб Веселых и Находчивых». Высшая лига.
**23.35** Фильм **«Снегирь».**
**01.10-02.00** «На ночь глядя».




**07.55** Музыкальная комедия **«Не бойся, я с тобой»** (СССР). 1-я и 2- я серии.
**10.40** Телебарометр.
**10.45** Школа ремонта.
**11.55** Выше крыши.
**12.30** Шоу «Суперинтуиция».
**13.35** Романтическая драма **«Ромео и Джульетта»** (Великобритания – Италия).
**16.15** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. Видеожурнал.
**16.50** Детектив **«Дело Румянцева»** (СССР).
**18.55** Суперлото.
**19.40** Спорт-кадр.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлото 5 из 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Криминальная драма **«Марафонец»** (США).
**23.30** Шоу «Суперинтуиция».




**06.20** «Тайны мира с Анной Чапман».
**07.15** «Поющие города». Дневник. Орша.
**07.25 «Солдаты-14»**
**09.00** «Автопанорама».
**09.30** «Жить будете».
**09.50** «100 процентов».
**10.20** «Большой завтрак».
**11.00** «Поющие города». Дневник. Витебск.
**11.10** «Кино»: Николь Кидман, Джулианна Мур и Мэрил Стрип в фильме **«ЧАСЫ».** США-Великобритания, 2002 г.
**13.30** «Здравствуйте, доктор».
**14.05** «Золотая коллекция»: Елена Соловей, Родион Нахапетов и Александр Калягин в фильме **«РАБА ЛЮБВИ».** СССР, 1975 г.
**16.00** «Центральный регион».
**16.30** «24 часа».
**16.50** Концерт Задорнова.
**18.30** «Поющие города». Итоговый дневник. Витебская область.
**19.00** «Автопанорама».
**19.30** «Неделя».
**20.40** «Фильм недели»: Скарлетт Йоханссон в фильме **«ДНЕВНИКИ НЯНИ».** США, 2007 г.
**22.40** «Адская кухня».
**00.05** «Арт-хаус»: фильм режиссера Даниса Тановича **«АД».** Франция-Япония-Италия-Бельгия, 2005 г.




**7:00** Аб'ектыў
**7:15** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Матыльда», «Мядзведзік Фантазік»
**7:40 «Школа на санцапёку»**: 16 серыя
**8:10 «Мой родны горад»**: 37 серыя
**8:30** Гісторыя пад знакам Пагоні
**8:45** Відзьмо-невідзьмо
**9:10** Зона «Свабоды»
**9:40** Еўропа сёння
**10:05** «Пераемнікі»
**10:20** Рэмарка
**10:50** Сальда
**11:05** Рэпартэр
**11:30** Навігатар
**11:45** ПраСвет
**12:10** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Матыльда», «Мядзведзік Фантазік»
**12:40 «Школа на санцапёку»**: 17 серыя
**13:05 «Мой родны горад»**: 38 серыя
**13:30** Моўнік
**13:40 «Глыбокая вада»**: 5 серыя
**14:25** «Рэвалюцыя»
**15:20** Назад у будучыню
**15:30** МакраФон: «Цівалі», дак. фільм, 2012 г., Беларусь
**16:00 «Дзеці славы»**
**18:00** Кулінарныя падарожжы Макловіча
**18:25** Два на два
**18:50** Калыханка для самых маленькіх: «Мядзведзік Фантазік»
**19:05 «Сенсацыі XX стагоддзя»**, серыял: **«Найвярнейшы жаўнер Гітлера»**
**19:55** Прэс-экспрэс (агляд медыяў)
**20:10** Дак.гадзіна: «Пекін ад золку да змяркання»
**21:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**21:15** Эксперт
**21:45** Форум (ток-шоу)
**22:30** Фільматэка майстроў: **«Навука сну»**
**0:10** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**0:30** Прэс-экспрэс (агляд медыяў)
**0:45** «Бульбаны», мультсерыял

**На працягу тыдня ў праграме магчымы змены. Перадрук тэлепраграмы забаронены!**

**Вы можаце падаць сваю прыватную аб-вестку і па хатнім тэлефоне на нумар 166 кругласутачна. Вы-разна назавіце газету. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".**

НЯДЗЕЛЯ, 14 кастрычніка

# Пад патранажам Расіі мадэрнізацыя Беларусі будзе куртатай

*Большасць беларускіх экспертаў, у тым ліку тыя, якія ўваходзяць у рабочыя групы «Еўрапейскага дыялогу аб мадэрнізацыі з Беларуссю», бачаць у якасці апрышча для правядзення рэформ Еўропу. Аднак ёсць і тыя, хто лічыць, што Беларусь, калі пойдзе па еўрапейскім шляху, стане прыдаткам ЕС. На іх думку, мадэрнізаваць краіну можна пад крылом Крамля.*

*У прыватнасці, выкарыстоўваецца такі аргумент: у Еўропе крызіс, а Расія купаецца ў нафтадоларах, за кошт якіх мадэрнізацыю можна правесці больш эфектыўна.*

*Але ўзнікае пытанне: а ці магчымая мадэрнізацыя з дапамогай Масквы?*

■ **Мікіта Бяляеў,**
*аналітык «Ліберальнага клуба» — для БелаПАН*

### Хісткае багацце Масквы

Сапраўды, зараз намер расійскіх уліванняў у беларускую эканоміку вялікі. Брусель наўрад ці змажа аказаць падтрымку на гэткім жа ўзроўні, тым больш пры сённяшнім становішчы эканомікі ЕС. Але не трэба забываць і пра тое, што расійскі дабрабыт моцна завязаны на сітуацыі ў Еўропе і сусветнай эканоміцы ў цэлым.

Паводле звестак Мінэканамразвіцця Расіі, у выпадку дэфолту некаторых краін еўразоны і банкрутства буйных еўрапейскіх банкаў цана на нафту можа ўпасці да 60 долараў за бараль, а даходы расійскага бюджэту могуць скараціцца на 1-1,2 трыльёна расійскіх рублёў.

Згодна з даследаваннем маскоўскага цэнтра Карнегі «Расія-2020: сцэнарыі развіцця», для падтрымання расійскай эканомікі на плыву з кожным годам спатрэбіцца ўсё больш сродкаў. Але на адным экспарце энергарэсурсаў далёка не паедзеш, у наяўнасці тэндэнцыя зніжэння іх цаны; а з інвестыцыямі таксама не ўсё гладка.

За апошнія гады ўзмацніліся працэсы вываду капіталу з краіны. Так, паводле звестак Цэнтральнага Банка Расійскай Федэрацыі, аб'ём замежных інвестыцый у 2011 годзе склаў 48,5 млрд. долараў, а вось вывелі з краіны амаль у два разы больш — 80,5 мільярда.

Сумніўна, што Расія ў выпадку пагаршэння сітуацыі зможа падтрымліваць Беларусь у ранейшым аб'ёме, а тым больш быць апірышчам мадэрнізацыі.

### Мадэрнізацыя эканомікі па версіі Крамля: усечаны варыянт

З аднаго боку, Масква зацікаўленая ў пэўных эканамічных пераўтварэннях, улічваючы тое, што Беларусь з'яўляецца членам АЭП. З другога боку, няясна, ці будуць рэформы ўсёабдымнымі.

Адно з галоўных пытанняў для расійскіх эліт – прыватызацыя беларускай дзяржуласнасці. У кантэксце рэформ Крэмль зацікаўлены перш за ўсё ў стварэнні ўмоў для расійскіх кампаній, што прыходзяць на беларускі рынак. У асноўным гэта можа закрануць апрацоўчыя і перапрацоўчыя галіны прамысловасці, якія выкарыстоўваюць расійскую сыравіну.

З-за магчымасці падзення цэн на энерганосьбіты Расія вымушана будзе перайсці з продажу сыравіны на продаж прадуктаў яе перапрацоўкі. Для гэтага неабходная нафтаперапрацоўчая і хімічная прамысловасць. Абедзве галіны там слаба развітыя, а на іх стварэнне неабходныя і значныя сродкі, і час. Затое гэтыя ратавальныя для Расіі вытворчасці ёсць у Беларусі.

Усё астатняе для Расіі не такое прывабнае, і на гэтым рэформы могуць быць замарожаныя. Масква не зацікаўленая, каб у Беларусі ўзнікалі канкурэнтныя вытворчасці. У гэтым плане характэрны сюжэт з вытворчасцю кітайскіх аўтамабіляў пад Барысавам.

Праект з самага пачатку ствараўся ў разліку на расійскі рынак. Масква неаднаразова намякала, што там кітайскія аўтамабілі беларускага паходжання могуць быць непажаданымі. Каб вырашыць праблему, афіцыйны Мінск вымушаны ісці на саступкі. Хутчэй за ўсё, Крэмль дазволіць пусціць да сябе легкавікі ў абмен на свае ўмовы зліцця МАЗа і КамАЗа.

Калі ж такая схема не пройдзе, то расійскі ўрад можа прымяніць апрабаваны інструмент — закрыццё рынку. Ці будзе Беларусь інвестыцыйна прыцягальнай у такіх умовах?

Атрымліваецца, што пры правядзенні мадэрнізацыі пад прыцэлам Крамля ў Беларусі вельмі незайздроснае становішча перапрацоўчага прыдатку буйной рэсурснай эканомікі. Пры такім сцэнарыі развіцця пытанне аб увядзенні расійскага рубля на тэрыторыі Беларусі зноў становіцца актуальным. У гэтым выпадку Масква забівае двух зайцоў, атрымліваючы поўны кантроль над беларускай эканомікай і забяспечваючы яшчэ больш прывязку Мінска да АЭП і Мытнага саюза. Для гэтага неабходныя толькі пэўныя макраэканамічныя рэформы.

У выніку Беларусь можа паплаціцца рэшткамі эканамічнай, а затым і палітычнай незалежнасці.

Становішча пагаршаецца тым, што ў Расіі няма неабходнага вопыту мадэрнізацыі, а ўсе апошнія рэформы не рэалізаваныя. Так, пенсійная, ваенная, адукацыйная рэформы, мяркуючы па выніках, праваліліся, а разрэкламаваная рэформа МУС звялася да змены формы і перайменавання міліцыі ў паліцыю.

Падобная да гэтай сітуацыя назіраецца і ў сферы бізнесу. Дастаткова зірнуць на месцы Расіі ў сусветных рэйтынгах. Так, у рэйтынгу Doing Business 2012 года Расія заняла 120-е месца, а ў рэйтынгу свабоды эканомікі ад Heritage Foundation — 144-е.

### Палітычныя рэформы таксама малаверагодныя

Што ж тычыцца палітычнай мадэрнізацыі, то ў выпадку правядзення рэформ пад парасонам Крамля змяненняў у гэтай сферы чакаць не варта. За апошняе дзесяцігоддзе расійскія правячыя вярхі спаўзлі да аўтарытарызму і ўзурпацыі ўлады.

Па сутнасці, у гэтым пытанні Масква ідзе па пратаптанай беларускім кіраўніцтвам дарожцы. Новыя правілы правядзення мітынгаў, больш жорсткае пакаранне па «палітычных» артыкулах, пераслед незалежных СМІ і нядаўняя забарона на дзейнасць амерыканскай арганізацыі USAID – метады, уласцівыя аўтарытарнаму рэжыму. Многія расійскія аналітыкі мяркуюць, што ў бліжэйшыя гады гэта тэндэнцыя толькі ўзмоцніцца.

Для паспяховага ходу мадэрнізацыі і вырашэння асноўных беларускіх праблем эканамічныя рэформы павінны ісці нароўні з палітычнымі. Без апошніх рэальнага паляпшэння сітуацыі чакаць не варта.

Жорсткая сістэма кіравання ў Расіі толькі пагоршыла становішча спраў, прывяла да росту карупцыі, узмацніла расслаенне грамадства, а асноўныя смачныя кавалкі ў эканоміцы размяркоўваюцца паміж прыбліжанымі да ўлады.

У выпадку правядзення рэформ пад патранажам Масквы мадэрнізацыя можа закончыцца для Беларусі канчатковым паглынаннем яе эканомікі Расіяй з усімі вынікаючымі адсюль наступствамі



# Таццяна Новікава і Мікалай Уласевіч маюць намер абскардзіць забарону на ўезд у Літву ў гарадскім судзе Вільнюса

■ **Анастасія Янушэўская**, *БелаПАН*

**Каардынатар Беларускай антыядзернай кампаніі, адказны сакратар Грамадскай экалагічнай экспертызы праекта беларускай АЭС Таццяна Новікава і каардынатар грамадскай кампаніі «Астравецкая атамная — гэта злачынства!» Мікалай Уласевіч маюць намер абскардзіць забарону на ўезд у Літву ў гарадскім судзе Вільнюса. Пра гэта БелаПАН паведаміла Таццяна Новікава.**

Нагадаем, вечарам 26 верасня актывісты антыядзернага руху не змаглі перасячы мяжу Літвы. Яны накіроўваліся ў Вільнюс для ўдзелу ў канферэнцыі «Літва — Беларусь, ядзернае суседства», арганізаванай літоўскім сеймам. На канферэнцыю Уласевіч і Новікава былі запрошаныя афіцыйна. Аднак літоўскія пагранічнікі адмовілі ім ва ўездзе на падставе рашэння МЗС, паводле якога Новікава і Уласевіч «пагражаюць бяспецы адной ці некалькіх краін Еўрасаюза, нацыянальнай бяспецы Рэспублікі Літва».

Паводле слоў Новікавай, у рашэнні МЗС таксама адзначалася, што на працягу 14 дзён яны маюць права яго абскардзіць. У гарадскім судзе Вільнюса інтарэсы неўязной у Літву Новікавай будзе прадстаўляць яе адвакат.

Актывістка аб вергла інфармацыю некаторых СМІ аб тым, што літоўскія пагранічнікі анулявалі ёй шэнгенскую візу. Паводле слоў Новікавай, на шматразовай шэнгенскай візе ў яе пашпарце, тэрмін якой мінае 1 лістапада, пагранічнікі ніякіх пазнак не рабілі. Аднак у сувязі з фармулёўкай рашэння МЗС, дзе згадваюцца «некалькі краін Еўрасаюза», яна не выключае, што не зможа выехаць у Еўропу.

Трэба нагадаць, што МЗС Літвы адмовілася каментаваць сваё рашэнне. «Паводле сталай міжнароднай практыкі Міністэрства замежных спраў не каментуе выпадкі, звязаныя з асобамі, якім забаронены ўезд у краіну, ці адмову ў выдачы віз», — заявілі БелаПАН у прэс-службе гэтага ведамства.

Дзеянні МЗС асудзіў дэпутат літоўскага сейма Казімерас Уока. Ён падкрэсліў, што канферэнцыя «Літва — Беларусь, ядзернае суседства», на якую ехалі беларускія актывісты, была арганізавана літоўскім парламентам. «Самае смешнае ў тым, што канферэнцыю арганізавала моладзь кіруючай партыі ў Літве. Гэта значыць людзей не пусцілі на канферэнцыю кіруючай партыі. Улада, якая вельмі хоча пабудаваць атамную станцыю, моцна нервуецца і прымае, я сказаў бы, такія тупыя рашэнні. За гэта тупое рашэнне мне, як літоўскаму дэпутату, сорамна», — заявіў Уока.

